# НАША НІВА

*Беларуская газэта* *Вільня №17, 1993*


**ЛАСТОЎСКІ** Гутарка з Антонам Адамовічам нагадвае хутчэй успаміны аб успамінах. Адамовіч — адзін з трох яшчэ жывых сёньня сьведкаў, якія асабіста ведалі Вацлава Ластоўскага.

**ALIEN** «Чужы», якога мы гадуем у сабе, — хто ён? Ён не залежыць ад нас і ўплывае на нас — аж да разбурэньня? А мы, калі й можам паўплываць на яго, дык толькі праз радыкальнае дзеяньне, скіраванае на сябе — зноў жа праз разбурэньне. Хто гэты «чужы ў сабе» — у душы, у целе, у нацыі? Д'ябал? Талент? AIDS?.. Эсэ Тадэвуша Камэнданта «Alien» і Сяргея Паўлоўскага «Чужы».

**ЗЬБІГНЕЎ ХЭРБЭРТ** Найбольш папулярны ў сёньняшняй Польшчы паэт, невядомы на Беларусі, — у перакладах Алега Мінкіна. Верш «Каля брамы даліны».

## СТРАКАЗІНАЕ ВОКА

*Літаратурны нумар "НН"*

Вясной гэтага году Рэдакцыя "Нашай Нівы" распаўсюдзіла літаратурную анкету. У выніку мы атрымалі больш за 60 адказаў ад людзей розных пакаленьняў і поглядаў, але бясспрэчна дасьледчаных у беларускай літаратуры і збольшага ведамых тым, хто сочыць за літаратурнай прэсай. Рэспандэнты называлі 10 лепшых наваенных беларускіх кніжак...





# ВЫРВІ ГЭТА ЗЬ МЯНЕ

Апавяданьне

Марыя Роўда



Ды, можа, і не было ўсяго гэтага. Можа, і не яны ўтварылі заўсёднае балота з кіслай кавы, попелу, печыва й ліпкіх костачак чарнасьліву на стале. І хіба пазяхала сьпінай да іх ноч і глядзела ў паўпаварота са стомленым зьдзіўленьнем у адвешанае вакно. І няўжо ты думаеш, гэта сапраўды Ён сутуліўся ў кутку, заціснуты паміж хлебніцай, слоікам узвару й талеркамі, што нахабна тарэшчыліся сваімі замежнымі відамі са сьцяны...

Яна адшчыквала вэнджаную рыбу, як хлеб, і ненаўмысна запівала яе гарбатай. Зацята, панікліва шкрэбла вачмі донца філіжанкі, але глей чаінак не ператвараўся ў словы. Тыя ж, як гарэзьлівыя чарцяняты, скакалі па закорках сваіх гаспадароў, тузалі за доўгія ў абаіх валасы, дзьмулі ў вушы, казыталі скрыўленыя вусны й недаўменна ўздымалі бровы, калі іх, нячысьцікаў, удавалася злавіць за пяткі, падалі, зьвешвалі галовы, як кветкі-званы на плоце, і храплі самым подлым чынам.

Яго ўжо амаль нудзіла, «Божа! Калі яна навучыцца ня есьці цукеркі з салам і піць расол у прыкуску з шакалядам. Такія звычкі, такі характар, такі твар. Як агідна! Суцэльнае павуціньне навокал, усё зламана, нават магнітафон — цяпер маўчаць, чакаць, трызьніць першым тралейбуса-ам...» Ён здрыгануўся, і сіні сполах пляснуў яму рукой па сумных вачох. «Ну вось і зноў: нашто запускаць лыжку для гарчыцы, як маятнік, між зубоў і малаціць ёю, быццам гэта "працяг справы бацькоў". Дзіця-а...»

«... Я б хацела жыць, як немаўля, у калысцы ягонай моцы. Можа, тады б ён не пакідаў мяне так надоўга адну — кожны ж ведае, што маленькія дзеці баяцца цемры. А тут... А ў гэтым склепе жах капае са столі й ліжа мой мозаг няўцешнасьцю бяссоньніц. Я кожную раніцу апранаю бутафорскія строі гусара (памятаеш, у такія любяць прыбіраць дам на ўсялякіх урачыстасьцях) і йду на цябе са сваім барабанам, але ж туга...»

«... Простасьці, простасьці... Мы ніколі ня будзем "марацца" простасьцю. А я ўжо зьнямог. Як абліты ў трыко дрэсыроўшчык, з удавана-шчасьлівым павісканьнем паганяю свой лёс, а той шалёна выконвае «па», рагоча, матляе кветкаю за спацелым вухам. Зазірні гэтаму коніку пад павекі — няўжо ты бачыш што-небудзь, акрамя круга й маёй самоты?»

*Працяг на старонцы 4*

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Дзёньнік прыватнага чалавека



## ГІСТОРЫЯ

Гісторыя народу пачынаецца з гісторыі плямёнаў і адразу ж раздвойваецца — на гісторыю матэрыяльнага быту й нацыянальную міталёгію (ідэалёгію). У сукупным разборы гэтых двух кірункаў і ёсьць навука — гісторыя. Я наўмысна спрашчаю думку дзеля таго, каб больш выразна ўбачыць, што сучасная гісторыяграфія на Беларусі кіруецца ня гэтым, а зусім іншым матывам. Замест таго, каб стаць зьявай навукі, яна імкнецца стаць зьявай грамадзкае думкі. Яшчэ ўчора яна займалася толькі матэрыяльным бытам, а ўжо сёньня больш нагадвае нацыянальную ідэалёгію. Праўда, толькі нагадвае. Бо ўся гэтая самой сабе не цікавая "мітатворчасьць", якую спрэс называюць гістарычнай навукай, ня ёсьць на справе ні навукай, ні ідэалёгіяй. Яна толькі называецца або здаецца тым, чаго на Беларусі яшчэ няма.

## ПАЛІТЫКА

Дзейнасьць беларускіх палітыкаў нагадвае перамяшчэньні за матавым шклом белых клінічных дзьвярэй. Адзіная рэальная *свая* сіла — з найбольш акрэсьленай канцэпцыяй будучае дзяржавы й ідэалёгіі — БНФ. Але сёньня палітыка БНФ — гэта як бы толькі антураж палітыкі. Заложны палітычны быт у Вярхоўным Савеце, праца ў ЖЭСах, шматлюдныя мерапрыемствы, «якімі ўжо нікога ня зьдзівіш»... Здаецца, на нейкім этапе Фронт страціў поступ і ўсё, што ў яго засталося — гэта інэрцыя першых гадоў ды рэфлекс на зьмены. Не хапае трэцяга, а менавіта — палітычнае волі. Фронт ня піша сцэнар. Зрэшты, яго ня піша ніхто. Гэтае кіно ставяць асыстэнты рэжысэра. Адзін асыстэнт кажа, што з «шэфам» дамоўлена і чакаецца ягоны прысзд з Масквы, другі аспрэчвае, маўляў, самастойнай Беларусі маскоўскі рэжысэр не патрэбны, трэці наогул маўчыць. А ўсе разам трымаюцца за свой асыстэнцкі аклад. І яшчэ — кожны баіцца, што, выявіўшы волю, будзе выглядаць «смешно».

## ДРУК

**Менскі часопіс на расейскай мове «Нёман» сяк-так падтрымлівае свой прафэсійны ўзровень — ёсьць традыцыя мысьліць сябе ў адным шэрагу з «Новым миром», «Иностранной литературой» і г.д. Але ўсё зьмяняецца наўкола. І ўжо няма цэнтральнага СП, «союзной аудитории», таго «Нового мира», — няма падставаў высока трымаць сваю планку. Засталася інэрцыя. Яшчэ ўчора як бы вышэйшы рангам за «Полымя» й «Маладосьць», ня сёньня дык заўтра «Нёман» стане на ранг ніжэй, падзяліўшы кампанію якой-небудзь «Ziemi Lidzkiej» і лёс віленскай «Литвы литературной». Нонсэнс у тым, што ўсё лепшае, што абірае для друку й перакладае на расейскую «Нёман», належыць пяру беларускамоўных аўтараў, а найбольш верная аўдыторыя часопіса — тыя, хто чытае і «ЛіМ». І калі сёньня перавесьці «Нёман» на арыгінальную мову, можа атрымацца выданьне на галаву вышэйшае за астатнія. Пакуль ня страчаны ўзровень.**

## ПАЛІТЫКА-ІІ

Старшыня Савету Міністраў Вячаслаў Кебіч — самое дзіця. Колькі наіўнае шчырасьці, колькі непадробнага гонару, колькі дзіцячай упартасьці ў гэтых падціснутых вуснах! Хто сказаў, што мы ня можам аддаць Расеі даўгі за энэргарэсурсы? Гэта няпраўда! Мы багатая рэспубліка, працавіты народ, разьвітая эканоміка. Ды мы можам разьлічыцца за любыя даўгі з кім заўгодна! Толькі каб ня гэтыя зайчыкі... Як жа тут разьлічысься? У Расеі ж — рублі! І сапраўды невырашальная праблема. У Пеці гузік на штанішках «адляпіўся», Пеця прыляпляе яго, а гузік ніяк ня хоча трымацца. І штанішкі спадаюць... Пеця з усяго размаху як пры-лепіць гузік... — балюча. Ня плач, Пеця, — кажа мама. Мама прыйшла!.. І гэта вялікі прагрэс. Бо яшчэ тры гады таму шчыльна спавіты Пеця адно смактаў ціцьку, рабіў у полкі і час ад часу крычаў не сваім голасам.

## КАВА

Для цэлага пакаленьня кава — нібы знак гораду, культуры, Эўропы і знак Вільні. Знак адкрытае саматоеснасьці — беларушчыны. Нам тыцкаюць нейкія вышываныя прасьціраллы і «цячэ вада ў ярок», а мы п'ем каву, бо ахватней атаясамліваем сваю мову й культуру зь ёю, з калёквіюмам па гермэнэўтыцы і з кніжкаю Акутагавы, чым зь «мёдам», з дыдактычным асьветніцтвам і народнымі песьнямі паэтаў-ляўрэатаў, дзякуючы якім слова «патрыятызм» стала сынонімам разумовае беднасьці ды духоўнага плебсу. Лёгіка тут вельмі простая. Чым больш непрывабна і ўпарта гавораць пра ральлю і «сваё», тым больш заўзята імкнесься да космасу й да «чужога». Ня дзіва, што культуры, зьведзеныя да плебейскага ўзроўню, на мяжы выміраньня знаходзяць сябе сёньня ў элітарнасьці. А юны К., зазірнуўшы ў задушлівую парылку, дзе нейкія шчарбатыя пярэстаркі з захапленьнем паказваюць адзін аднаму свае язвы, сьпяшае назаўсёды зьнікнуць у вулічным натоўпе, каб ніколі не атаясамліваць сябе з гэтым, каб выпадкова сустрэць аднамоўцу і за гаманою культываваць сваю беларушчыну, якая гаркава пахне для яго кавай.





У вярхох Эўфрату некалі йснавала дзяржава Камагена, якая здабыла сабе незалежнасьць пасьля распаду імпэрыі Аляксандра Македонскага. Яна месьцілася па абодвух берагох вялікае ракі й кантралявала адну зь істотных пераправаў праз яе. Камагена, якой уладарыла грэка-пэрсідзкая дынастыя, шмат стагодзьдзяў утварала буфэр паміж Рымам і Парфіяй. Для іх яна была жаданай здабычаю, але ўменьне лавіраваць і шчодра задорваць ратавала камагенцаў ад суседзяў. У 64-м годзе цар Антыёх нават здолеў заключыць з Пампеем дамову, якая гарантавала Камагене недатыкальнасьць.

Малавядомая сёньня Камагена была некалі месцам сустрэчы розных цывілізацыяў. Тут сыходзіліся й зьмешваліся культуры Захаду і Ўсходу. Пантэон камагенскіх багоў быў даволі пярэсты. Грэкі прынесьлі сюды культ Зэўса, Апалёна, Фартуны, пэрсы — Мітры й Ахура-Мазды. Больш таго, злучыўшыся, гэтыя багі атрымлівалі й дадатковыя імёны, і кожны зь іх атаясамліваўся зь некалькімі.

Цар Антыёх пасьля дамовы з Рымам вырашыў і сябе далучыць да нябеснага пантэону. Ён быў малады й фанабэрысты. Па матчынай лініі — нашчадак Аляксандра, па бацькоўскай — славутых Ахемэнідаў.

На гары Німруд-Даг, што ўзносілася над сталіцаю Камагены Самасатай, цар загадаў пабудаваць велізарнае капішча ўсім багам, дзе меліся быць выбітыя словы: **«Я, Антыёх, узьвёў гэтую сьвятыню, каб уславіць сябе й сваіх багоў»**. Гэта было ў 62-м годзе.

На вяршыні гары вышынёю 3 тысячы мэтраў былі высечаныя ў скалах тры вялікія тэрасы. На верхняй стаялі пяць калёнаў вышынёю зь пяціпавярховы дом. Тэрасы былі багата аздобленыя барэльефамі, якія ўслаўлялі цара й яго сям'ю. Кожную з тэрасаў ахоўвалі мармуровыя львы і арлы.

Пасьля сьмерці Антыёха падданыя збудавалі яму пяцідзесяцімэтровую піраміду зь зіхоткага мармуру.

# ФРАГМЭНТЫ



## БАЛТАСЛАВІЯ

***З інтэрвію лідара Лігі Свабоды Літвы Антона Тэрлецкага (Antanas Terleckas) газэце «Kurier Wileński»:***

— У кастрычніку падчас канфэрэнцыі Польскага Асяродку Культуры ў Маскве я казаў пра пагрозу для народаў, якія жывуць паміж Нямеччынай і Расеяй. На маю думку, нямецкі імпэрыялізм прыкладзе ўсе намаганьні, каб вярнуць усе землі, якімі Нямеччына валодала да 1937 г. А расейскі імпэрыялізм — каб вярнуць Малдову, Украіну, Беларусь, Прыбалтыку. Таму я прапаную пашукаць у Польшчы, Літве, Латвіі, Беларусі і Ўкраіне людзей, якія мысьляць палітычна і якія зрабілі б усё дзеля яднаньня гэтых дзяржаваў у адзін ваенна-палітычны саюз, хутчэй за ўсё канфэдэрацыю. Умоўна такі саюз можна было б назваць Балтаславія.

*— У наш час такая ідэя, магчыма, выглядае крыху сьмешна?*

— Ня думаю. Больш за ўсё народы гэтых дзяржаваў будуць асьцерагацца новае хвалі палянізацыі. Але нацыянальная сьведамасьць усіх не-палякаў сёньня дастаткова высокая. Прынамсі літоўцам сапраўды не пагражае палянізацыя. Праз законы Балтаславіі былі б перакрытыя шляхі палянізацыі. Напрыклад, войскі Польшчы не маглі б пераступаць польска-літоўскую мяжу. Ніводзін грамадзянін Польшчы ня мог бы займаць дзяржаўныя пасады ў Літве, набываць тут нерухомасьць і г.д. Дзяржаўнае мовы не было б увогуле. Дыпляматы міжсобку разумеліся б на польскай мове, навучыцца якой нават латышам і літоўцам няцяжка. Інтарэсы літоўскага народу вымагаюць задзіночаньня Усходняй Эўропы. Я спадзяюся на дапамогу польскіх палітыкаў.

*— Якую?*

— Палякі мусілі б дапамагчы майму народу забыць усе крыўды, якія прычыніла яму Польшча. Гаворачы пра двухбаковыя крыўды, трэба мець на ўвазе, што заўсёды больш вінаватая большая дзяржава. Польшча павінна публічна перапрасіць Літву за «авантуру» Жалігоўскага й дапамагчы Літве дыпляматычным шляхам вярнуць Малую Літву, якую цяпер называюць Калінінградзкай вобласьцю...

*— Вашыя развагі арыгінальныя і супярэчлівыя... Ці вы таксама крытычна ацэньваеце дзейнасьць Арміі Краёвай?*

— Не АК, але яе дзейнасьць на Віленшчыне. Няхай палякі не апраўдваюцца тым, што літоўцаў забівалі не акоўцы, а пераапранутыя савецкія партызаны. Я меў тады 16 гадоў і ўсё добра памятаю... Тым ня менш ладжаньне сёньня «грамадзкіх судоў» над АК — гэта глупства найвышэйшай ступені, палітычны анальфабэтызм. Расейскія партызаны ў Літве дапусьцілі ня меншыя злачынствы адносна нашага народу, але іх ня судзяць. Ня судзяць удзельнікаў бандаў Берыі, Суслава, Сьнечкуса і іншых «народных абаронцаў». Яны ўчынілі ў Літве стакроць большыя злачынствы, чым акоўцы. Літоўцы павінны перастаць арганізоўваць маральныя суды над акоўцамі, а палякі — узносіць ім помнікі. Можа яшчэ 100 гадоў міне, перш чым літоўцы забудуць «акцыі» АК 1944 году. Палякі павінны гэта зразумець і не жадаць, каб мы палюбілі АК.

*— Вы асуджаеце грамадзкі суд над АК, адначасова прапануеце Польшчы перапрасіць Літву. Вы хацелі б арганізаваць такі ж суд над Жалігоўскім.*

— Гэтага павінны дамагацца польскія палітыкі, зацікаўленыя ў добрых літоўска-польскіх адносінах. Літоўцы ніколі не павераць у добрыя намеры палякаў, калі тыя маральна не асудзяць Жалігоўскага. Мы ня хочам карыстацца правам рабіць выснову, што Польшча дагэтуль не зраклася сваіх прэтэнзій на Вільню...

Паўтараю, кіраўніцтва Польшчы павінна перапрасіць літоўскі народ і вярнуць яму этнаграфічныя літоўскія землі — Сейны й Сувалкі, дзе цяпер адмініструе Польшча.

Кіруючыся інтарэсамі літоўскага народу, я маю на мэце пагасіць у Літве антыпольскія настроі. Без разважнае дапамогі польскіх палітыкаў гэтага дасягнуць немагчыма. Я імкнуся, каб літовец перастаў разглядаць паляка як адвечнага ворага Літвы. Польшча ня толькі крыўдзіла Літву. Захопліваючы ў 1920 г. Віленшчыну, Польшча прычыніла Літве цяжкапапраўную крыўду. Аднак аб'ектыўна Польшча ў тым жа 1920 годзе ўратавала незалежнасьць Літвы, якая ўжо тады магла цалкам страціць незалежнасьць — стаць «сацыялістычнай рэспублікай». У тым выпадку літоўскую мову мы чулі б сёньня ў Літве таксама рэдка, як беларускую на Беларусі.

## ВІЛЕНШЧЫНА

***З артыкула Чэслава Скаржынскага (Česlovas Skaržinskas) ў газэце «Tiesa» пра ўжываньне літоўскай мовы ў Салечніцкім раёне на літоўска-беларускай мяжы:***

Як у гэтым раёне ажыцьцявіць закон пра дзяржаўную мову — рытарычнае пытаньне. Мала карысьці далі моўныя курсы. Большасьць літуаністаў у Салечніках перагружаныя непасрэднаю працай. Акрамя гэтага, спэцыялісты іншых нацыянальнасьцяў у Салечніцкім і Віленскім раёнах

# КАМАГЕНА



Антон Сіюль

У 72-м годзе Камагена была разрабаваная рымлянамі й далучаная да імпэрыі. Вось і ўсё.

На вяршыні гары Німруд-Даг засталіся закінутыя й забытыя багі розных цывілізацыяў. Сакавітая й дасканалая плястыка статуй і барэльефаў — праца лепшых майстроў з розных краін Захаду і Ўсходу — засталіся шэдэўрамі для саміх сябе. Уразьлівы ансамбаль позьняга элінізму сузірала адно неба.

Ізноў сьвет дазнаўся пра яго існаваньне толькі ў 1882 г., калі на Німруд-Даг падняліся нямецкія й турэцкія археолягі. Але толькі ў 1953 г. сучасная тэхніка дазволіла амэрыканцам прыступіцца да комплекснага досьледу гэтага ўнікальнага месца.

Гісторыя Камагены міжволі прыкладаецца ў маёй сьвядомасьці да Беларусі. Колькі такіх Німруд-Дагаў у гісторыі нашай культуры — загубленых, панішчаных, забытых здабыткаў высокай цывілізацыі — той, якая йснавала тут да расейскага нашэсьця. Бажніцы ўсіх канфэсіяў, палацы вялікіх магнатаў — яны часам не засталіся й на старонках кніг. Калі я ўглядаюся ў старыя гравюры й здымкі, мяне ахоплівае тое ж зьдзіўленьне, што й адкрывальнікаў вялікіх цывілізацыяў старажытнасьці. Вельмі цьмяна ўяўляецца сёньня, для каго й хто ствараў Асташынскі збор, Беразьвецкую царкву альбо фару Вітаўта ў Горадні. Цяжка сёньня спасьцігнуць, чаму ў такой глушы, як Валынцы, буяў калегіюм са сваёй прафэсурай, з опэрным тэатрам, а ў маленькім Еўі друкаваліся кнігі.

Беларусь стагодзьдзямі ляпілася па прынцыпу сотаў — з мноства замкнёных ячэек. Для гэтага стваралася дыфэрэнцыяльнае грамадзтва. У матэрыяльнай культуры гэта ўвасобілася ў татальным «замкавым» прынцыпе дойлідзтва — амаль для ўсіх тыпаў будынкаў.

Гэтак жа сотападобна выглядала кожнае места й мястэчка, дзе кляштары й палацы ізаляваліся ад вонкавага атачэньня і адначасова зьнітоўвалі ўвесь арганізм паселішча. Падобна, што й славутая талеранцыя не дэтэрмінавалася ў нашым мэнталітэце, а высноўвалася як *ratio*, як спосаб выжываньня. Гэтае сотавае *status quo* трымала, праўда, адна звышідэя — ідэя Дзяржавы, што бараніла кожнага й вызначала кожнаму яго дзялку. За такую магчымасьць існаваць гэтую дзяржаву баранілі людзі ўсіх станаў і канфэсіяў. Калі ж зьнешнія фактары (акупацыі) кладзіся на адзін бок шаляў, вынікі былі катастрафічныя.

Прычынаю катастрофаў станавілася не сама разнастайнасьць вераў і станаў, а разлом сотавае структуры ненатуральным шляхам. Як і не політэізм Камагены зрабіў яе ахвяраю чужой імпэрыі.

Для мяне істотнае іншае — шматстайнасьць культуры дазволіла невялікай дзяржаве стварыць вышэйшы ўзор цывілізацыі, узьняць мастацтва на небасяжную вышыню. Урэшце, якая мне справа да астатняга! Дарэчы, камагенцы карысталіся паслугамі майстроў-добраахвотнікаў, бо прынамсі ня мелі такой колькасьці рабоў, як іх суседзі.

Беларусь здавён уяўляла сабою сыстэму ўзаемазьвязаных замкнёных структураў (станы, канфэсіі, этнічныя меньшасьці). У нетрах гэтае сыстэмы высьпявала й сама беларушчына — як адна зь іншых ячэек. З-за адсутнасьці фактычных межаў яна ня стала Ідэяй Дзяржавы ў дзяржавах цалкам не сваіх, альбо не сваіх цалкам. Ахапіць усе «соты» яна ня здолела нават пры такіх умовах, калі фразэалёгія беларушчыны станавілася легальнай (міжваенная Польшча), альбо нават афіцыйнай ("беларусізацыя" у БССР), таму што яе атачалі ўсё тыя ж эзатэрычныя ячэйкі грамадзтва (традыцыйны рэгіяналізм, чынавенства і інтэлігенцыя, выхаваныя ў палёх суседніх культур, вялікая колькасьць прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў (да вайны), паўтузіна канфэсіяў).

Сацыялізм толькі прыхаваў традыцыйную структуру беларускага грамадзтва, дадаткова ізаляваўшы яе ад вонкавага сьвету. Апошняя вайна толькі напомніла пра яе «шматскладовасьць», здэнатаваўшы жорсткую канфрантацыю й на «саветызаваным» Усходзе й на Захадзе Беларусі, дзе адчайная рэзыстэнцыя разнамасных фармаваньняў набывала характар грамадзянскае вайны.

Наколькі непераадольнымі аказаліся сьцены карпаратыўных ячэек, сьведчыць і сёньняшні стан нашае культуры, дзе архітэктура й кіно, жывапіс і тэатар ніяк не зьліваюцца ў адну музыку, а гучаць нястройным хорам.

Незалежнасьць прынесла зусім новае тло, на якім павінна дзеіць беларуская грамадзтва. Насуперак чаканьням, ячэйкі пачалі адраджацца з небывалаю хуткасьцю, пачалося аднаўленьне «сотаў». Кожны займае сваю. Апроч старых, адсунутых было ў далёкія куты (рэлігійныя й этнічныя традыцыйныя суполкі), зьяўляюцца й структуруюцца новыя групы з калектыўнай сьвядомасьцю (чарнобыльцы, «афганцы», «яцьвягі» ды іншыя). Тут нічога новага не адбываецца, ідзе замена непапраўна зьнявечаных альбо зьніклых групаў.

Усе палюсы ўраўнаважваюцца. І зноў большасьць дэманструе сваю ляяльнасьць да Дзяржавы. На гэты раз беларускай. Навыперадкі пералічваюцца заслугі (шляхты, татараў, вуніятаў) перад Бацькаўшчынай, перад Беларусьсю.

Наша Камагена ў стане падняцца толькі праз гэты шлях. Бо ніколі раней і ніколі пасьля ніхто ня зможа засвоіць і зьберагчы ўвесь комплекс колішняе цывілізацыі на Беларусі, ідучы толькі з пункту А.

Ці то праваслаўныя, ці то кальвіністы, абіраючы сабе аргументы, мусяць засвойваць і рэанімаваць зь мінулага свае. І справа ня ў большасьці або ў меньшасьці, а ў справах. Скажам, у справах Буднага...

Чын несавецкае беларушчыны быў справаю меншасьці ня толькі ў колькасным сэнсе. У ім нібы факусавалася ўся папярэдняя традыцыя станавае й канфэсійнае разнастайнасьці — зразумела, у неадэкватнай прапорцыі рэальнаму становішчу на Беларусі. «Чужасьць» паходжаньня некаторых зь іх кампэнсавалася кампэтэнцыяй адраджэнцаў, дзякуючы якой яны сталі ў сярэдзіну порыстае структуры беларускага грамадзтва. Гэтая дасьведчанасьць якасна зьмяніла падыходы да культуры й палітыкі. Меншасьць «чужаніцаў» і стварыла тое, што мы называем Беларусьсю.

«Порыстая» структура беларускага грамадзтва лёгка, як квач, усмоктвае чужыя ўплывы, мову, моду. Але гэтак жа лёгка й выпускае іх зь сябе. Прыклад Заходняе Беларусі ў гэтым сэнсе найбольш красамоўны (русіфікацыя, абнямечваньне, апалячваньне, зноў абнямечваньне, саветызацыя). Чаму Беларусь не набрыняла беларушчынай? Таму што яе носьбіты, прапанаваўшы дадатковы вэктар разьвіцьця, ня ў стане былі раней і ня ў стане сёньня выйсьці за межы сваіх праструктураў (паходжаньне рэгіянальнае, станавае, канфэсійнае...). Калі не зьляпіць з сотаў адзіны кавалак воску, тады Беларусь застанецца, як і было раней, сыстэмаю ўзаемазьвязаных, але замкнёных структураў. У Індыі гэта назвалі б каставасьцю. Гарантыяй жыцьцёвасьці такой сыстэмы ёсьць агульны інтарэс мноства групаў захаваць сваю недатыкальнасьць звонку.

Этнічная Расея выкінула сваіх старавераў у нетры Азіі, Поўначы. Знайшлі яны прытулак і на Беларусі. Чаго ім было чакаць ад маскоўшчыны? Жыды йснавалі на Беларусі натуральным чынам да XX ст. Разбурэньне іхняй структуры ізноў жа прыйшло звонку.

Чаго сёньня могуць чакаць ад Усходу чарнобыльцы, калі там іхнія праблемы — што кропля ў моры. У Расеі імкнуцца забараніць прапаганду неправаслаўных канфэсіяў на «кананічных» землях. Што там шукаць беларускім пратэстантам?

Як і раней, так і сёньня беларуская дзяржаўнасьць яшчэ мае патэнцыяльныя магчымасьці для значна большай свабоды выбару, чым суседнія нацыянальныя мадэлі. Гэта, бадай, найгалоўная вартасьць нашае сацыяльнае традыцыі — усьведамленьне нацыі як сумы меншасьцяў, дзе роля кожнага прапарцыйная вартасьці ягонага ўкладу.

Як і раней, носьбітам беларушчыны ёсьць абсалютная меншасьць. Сёньня яна імкнецца да экстэнсіўнага пашырэньня — і адразу пачынае дзяліцца. Гэты працэс, гэты сотавы прынцып — гістарычна натуральны, бо і сама беларуская спадчына, да якое яна апэлюе, мае не адну мадэль «беларушчыны» (параўнаем Веткаўшчыну й Браслаў, кальвінізм і ўніяцтва ды г.л.). Сабраць іх пад адною страхою можна толькі праз рупнасьць спадкаемцаў асобна кожнае з гэтых мадэляў. Адзіным гарантам на тое мусіць быць Беларуская Дзяржава, ідэяй захаваньня якое будуць прасякнутыя ўсе беларускія структуры.



не выказваюць лішняй прагі ў вывучэньні літоўскай мовы. Цяжка сабе ўявіць, як уводзіцца літоўскае справаводзтва ў большасьці установаў і арганізацый гэтага раёну. Між тым, набліжаецца тэрмін, калі ў афіцыйных установах расейская мова дамінаваць ня зможа.

Парадаксальная сытуацыя ў Салечніцкім раёне пануе дагэтуль. Хоць расейцамі тут назваліся толькі 2,3 тыс. жыхароў, а палякамі 32,9 тыс., афіцыйнай мовай зьяўляецца расейская. Большасьць не-літоўцаў сьцьвярджае, што ім зь цяжкасьцю даецца вывучэньне літоўскай мовы, цяжкая граматыка й вымаўленьне. Аднак асноўныя аргумэнты іншыя. Прычыны іншыя: брак жаданьня ці простае ігнараваньне дзяржаўнае мовы. Большасьць жыхароў Салечніцкага раёну мяркуе: няма абсалютнай патрэбы вывучаць літоўскую мову, бо яны не зьбіраюцца пераяжджаць у іншыя мясцовасьці Літвы. У салечніцкіх крамах, у большасьці установаў і арганізацый можна паразумецца выключна па-расейску. Ці ж, кажуць, расеец з расейцам павінен размаўляць па-літоўску? Несумненна, яны маюць рацыю. Аднак у крамах і г.д. трэба прынамсі разумець па-літоўску. У будучыні расейскую мову будуць вучыць усё менш людзей. Штораз больш літоўцаў і палякаў у Літве ня будуць ведаць расейскую мову. Што тады будзе? Аднак уціск і суровыя законы тут таксама нічога не дадуць. толькі на падставах дабраахвотнасьці і толькі паступова дзяржаўная літоўская мова здабудзе належнае месца ў Салечніках. Магчыма, больш спэцыялістаў літоўскае мовы паедуць на працу на Віленшчыну.

Дагэтуль праблему падрыхтоўкі кадраў у гэтым рэгіёне выраашалі па-рознаму. Нейкі час для выпускнікоў з Салечніцкага раёну былі створаныя ільготныя ўмовы для паступленьня ў вышэйшыя школы Літвы. Бяз конкурсу. Большасьць зь іх на ўступных экзамэнах атрымлівалі толькі тройкі і пазьней адпадалі. Кіраўніцтва Салечніцкага раёну запрашала розных спэцыялістаў пераважна зь Беларусі. Сёньня іх шмат у мэдычных установах, у сфэры абслугі. Звычайна яны ня ведаюць літоўскай мовы. Што праўда, амаль усе функцыянэры вышэйшага ўзроўню добра ведаюць яе, але праблема зь сярэднім і ніжэйшым зьвяном кіраваньня. Шмат людзей, якія ня ведаюць літоўскай мовы, працуюць у паліцыі, у сельскай гаспадарцы, крамах і г.д. Нават у салечніцкай мытнай управе ня ўсе работнікі ведаюць дзяржаўную мову.

На жаль, кіраўнікі-літоўцы асобных установаў і арганізацый Салечніцкага раёну нядбала ставяцца да дзяржаўнае мовы. Цяжка тут казаць пра патрыятызм. Аднак былі й ёсьць на Віленшчыне літоўцы патрыёты, якія, хоць у цяжкіх умовах, але дбаюць пра літоўскасьць. Шкада, што іх не заўважаюць. Ніводзін зь іх на працягу апошніх гадоў Незалежнасьці ніякім чынам ня быў заўважаны і адудзячаны. Вядома, не для таго працуюць. Але ўвага й пашана неабходныя.

## КАРАЛЕВЕЦ

*З артыкула Нарцыза Расімовіча (Narcizas Rasimavičius) ў газэце «Lietuvos Aidas»:*

Гісторыя заваёваў сьведчыць, што захопленыя тэрыторыі яшчэ доўга застаюцца спрэчнымі, а нярэдка з нагоды іх вяртаньня ўзьнікаюць ваенныя канфлікты. Гэта складае перашкоду на шляху да трывалага міру. Не выключэньне й канец нашага стагодзьдзя. Згадаем канфлікт Англіі й Аргентыны за Фальклэнды, нешта падобнае насьпявае ў ангельска-кітайскай спрэчцы пра Ганконг, Ізраіль ня хоча пакінуць Галянскія вышыні, а Расея — некалькі японскіх выспаў...

Ці можна лічыць вырашанай справу Каралеўца? Мяркую, што не. Прыналежнасьць гэтай вобласьці да Расеі ня мае праўнага абгрунтаваньня, бо не была ўзгодненая ні ва ўмовах, ні ў пагадненьнях. Гэта акупаваная зямля. Немцы, у якіх яна была адабраная, сёньня ня хочуць гучна ўздымаць гэтую справу, бо ў свой час, хочучы ўгрунтавацца на балтыцкім узьбярэжжы, яны таксама захапілі яе. Здараецца, што двое перасвараных за адну рэч урэшце даходзяць да паразуменьня, каб ёй карыстаўся нехта трэці.

Немцы, якія заклалі сваю дзяржаву на захопленых прускіх землях і назвалі Прусіяй, страцілі яе таму, што там жылі варожа настроеныя людзі, і таму належала падцяць карэньне патэнцыяльнае адплаты. Аддзеленыя ад астатніх нямецкіх земляў, яны заўсёды выстаўлялі б патрабаваньні, зьвязаныя з транзітам праз Польшчу. Народы, як і людзі, маюць уласны характар. Ужо сам польскі дух — гэта аргумант: альбо транзыт немагчымы, альбо добра заплаці. Вялікабрытанія й Францыя дагэтуль яшчэ пачуваюцца вінаватымі, што толькі на словах падтрымалі Польшчу перад гітлераўскай агрэсіяй. Адданьне ж часткі прускіх земляў Польшчы, а астатняй часткі — СССР (не Расеі) мела падвойнае значэньне. Англія з Францыяй, заплаціўшы Польшчы чужой зямлёй, а астатнюю частку Прусіі ператвараючы ў вымерлую зямлю, пазбавіліся праблемы нямецкага транзыту праз Польшчу. Немцаў у Прусіі замяніла сёньня Расея ў Прусіі, і пытаньне транзыту паўстае не паміж дзьвюма часткамі нямецкай дзяржавы, а паміж дзьвюма часткамі дзяржавы расейскай, і праходзіць ён не праз Польшчу, а праз Літву. Для Літвы ж пытаньне гэтага транзыту сёньня жыцьцёвае — на падставе раўнапраўнасьці і ўзаемнай для Літвы й Расеі карысьці...

Агульнасьць інтарэсаў Расеі й Нямеччыны выяўляецца яшчэ і ў тым, што пасьля вызваленьня Калінінградзкай вобласьці з эканамічнага ўціску як бы зьмяняецца яе палітычны статус. Мы ж лічым інакш. Расея ўжо адкрыта кажа, што свой уплыў на балтыцкія краіны будзе ажыцьцяўляць праз расейскамоўныя супольнасьці. У Літве такая супольнасьць ня надта вялікая. А калі б такім чынам замест трох балтыцкіх дзяржаваў узьніклі чатыры: Літва, Латвія, Эстонія і расейскамоўная Прусія? Эканамічная прастора, пэрспэктывы разьвіцьця, натуральныя сувязі. Ці не было б гэта ў згодзе зь дзяржаўнымі інтарэсамі Расеі, як і Літвы, Латвіі і Эстоніі. Разам балтаў і эстонцаў было б больш, але тры мільёны расейскамоўных — таксама шмат, каб інтарэсы Расеі маглі быць прадстаўленыя годна...

# ВЫРВІ ГЭТА ЗЬ МЯНЕ

*Працяг са старонкі 1*

... Машына прашаргатала пакрыўджана й высунула знадворку ў кухню сьвятло фараў, быццам кіроўца — локаць у адчыненае вакенца. З напружаным ад блізарукасьці вострым тварам, Яна пацягнулася цераз стол, зачапіла слупок печыва, акунула варсінкі шведра ў сочыва на скібачцы адкусанага батону, нарэшце зло плюхнулася на зэдлік, і храпкі Яе зарухаліся ненасытнымі зябрамі. Ён усьміхнуўся, заўважыўшы, што Яна капрызьліва спадзяецца на здагадку, адкінуў важкія валасы й суцешыў: «Ня трэба завешваць. Дарэмны страх, супакойся. Эх, гора ты маё, гора...»

«Гора, гора. Калісьці ты сачылася ў маё прыстанішча, прыжмурыўшы легкадумнае вока, і вада сьвістала праз усе шчыліны. Ты абкручвала мае ногі хітраю хваляй і загадвала ў мэгафон з крэсла ля прайгравальніка: «Дождж і затапленьне! Дождж і затапленьне!» І тады мы прымалі суровы выгляд і дэманстравалі адзін аднаму стылі плаваньня. А ты патэтычна крычала: «Мы маем шанец супраць паражэньня: нас папярэдзілі, што паводка ўсё ж спадзе, таму мы дасягнем мора загадзя». Я пярэчыў у адказ: «Яно забітае мясцовымі аўтарытэтамі, а нам так добра ў сваім сховішчы. Але. Пасьпешлівасьць загубіла й нас з табой: цяпер вось варушым пясочак ды пускаем бурбалкі за нясьцерпным шклом».

Яна шчоўкнула пазногцем па слоіку і прапанавала, нібы паскардзілася:

— Куплю сабе рыбак. Усё ж нейкая забава. Раты круглыя.

Ён згадзіўся, выпусьціўшы дым:

— Купі. Яны будуць дохнуць з голаду, і ніводная не пасьпее цябе абразіць сваім маўчаньнем.

І без таго тонкія вусны Яе зусім запалі ўсярэдзіну, скранулі рэзкае падбародзьдзе, што вытыркнулася, бы груваткі прас.

«Маўчаньнем. Як растлумачыць яму, што ён адзіны, хто прыходзіць сюды? Як вытрымаць? Мяне ўдарылі кійком пад калені — я звалілася, але пасьпела сказаць: «Напэўна, гэта сэрца». Цяпер глебу размыла, і вось ужо чужыя абцасы топчуць мяне, а я — то тварам у гразь, то з тварам у гразі. І нікога, каб дапамагчы, і тэрмін убірае ў сябе новую вільгаць, і выйсьце — толькі ў дзьверы тваёй бязвыходнасьці. Зачыні іх, дружа, бо я не дапаўзу!»

«... Марнасьць, поўная недарэчнасьць дзеяньня. Куды ж яна так сутаргава імкнецца, нашто кратаецца, калі ведае, што ня ўмее больш хадзіць? Час спыніцца. Сядзь побач, сонца, — ля маёй вады, адчуй, як нябесная кропля драпане цёплую скуру, аблізьніся на грымоты — усё роўна навальніца пройдзе бокам. Няўжо ты не хочаш гэтага заспакаеньня? Хаця... Ты маеш рацыю: мы задушылі тваю радасьць, цяпер валочам яе за горла й цябе ж вінавацім у вечным адчаі. Але ж... Я ім ня вораг».

«Ведаеш, на іх марудна-адсутнае «як справы» так і карціць пахваліцца: «У мяне добры сон апошнім часам, калі-нікалі я сплю нават удзень...»

Ён нечакана голасна пазяхнуў, і раптам стала заўважная лянівая шчэць, якая раўніва адштурхнула ад поўных вуснаў Яе дбайную далонь. Ён расслаблена засьмяяўся, і шорсткае брыво Яго выгнулася, як разварушаны кот, якога паклікалі есьці:

— Не зьмянілася. Усё клапоцісься аб дробязным прыліку, а ў кватэру тваю небясьпечна пускаць дзяцей: нейкі вядзьмарскі прытулак.

— Затое ў лазьніцы чыста. У сястры рамонт — зрэдку забягае сюды. Я ўсе астатнія пакоі зачыняю, яна й не зазірае — сьпяшаецца.

Шляхстныя пальцы Яго затрэсьліся, і попел таннай цыгарэты прагна й раздражнёна заглынула гарбата.

— А зрэшты... Хутка вернуцца бацькі, вось тады сапраўды пачнеш марыць аб чараўніцтве. Цеснота, пыл выціраць, галёканьне. Зноў блукаць па горадзе. Шукаць... І нічога ўжо ня знойдзеш.

Ён задуменна схаваў пяшчоту агню запалкі, а Яна зайздросна захінулася ўласнымі рукамі, учапіўшыся імі ў плечы.

«Немагчыма ажыцьцявіць. І ты, і я ...»

Яна пашкрэбла па кнопачцы настольнае лямпы, разгублена падняла галаву — сьветлыя валасы гультаявата папаўзлі ніжэй да рамяня... «Новага...»

— Слухай, Дзіна...

— ... — прадчувальна-недаверлівае мычаньне абмылкам сьлізганула па языку.

— Слухай, давай заўтра. Заўтра ўсё вырашыцца. Павер, так лягчэй.

Ён вымавіў гэта ненатуральна бадзёра, быццам бы паўтараў показку, якую яна не магла зразумець, а толькі вінавата-разгублена запіхвала блізкі плач за каўнер.

«Заўтра... Заўтра тут будзе трупны пах ад дыму й ніхто ня прыйдзе. Санлівасьць захныча аб літасьці, а я безь перапынку буду ўставаць з канапы й адказваць на памылковыя званкі па аб'явах, якіх ніколі не давала. Ах, як ня трэба. Ня трэба, ня трэба прадвызначанасьці...»

... Ён старанна супакоіў на грудзях шалік, прыструніў паліто, самавіта пабразгаў кішэнямі:

— Ну, пакуль.

— Паку-у-уль.

Запаволены й вызвалены, Ён расьцьвяліў сьцішаныя прыступкі, учадзела тыцнуў сьвітанку няўважлівую руку. Белыя дзьверы адчужана замуравалі адыход, заспаная электрычнасьць замармытала правілы адзіноты, а Яна забаўлялася сваім злавесным сёрбаньнем, каб не адляцець у цішыню. І толькі ў кутку, на банкетцы, крыўдаваў зморана Гасподзь і ўмудрана ўзіраўся ў сваё змучанае, непрыкаянае дзіця.

«Эх, Божа. Схапіць бы цябе за крысо й папрасіць: «Не ўцякай, застанься са мною, пакуль мне будзе страшна. А я абавязкова засну. Да таго ж потым прыцягнецца ранак, і я не затрымаю цябе колькі-небудзь даўжэй.

Няхай ніхто цябе тут ня знойдзе, але ж заставайся...»



*Здымак Алены Адамчык*

# СТРАКАЗІНАЕ ВОКА

**Літаратурная анкета «НН»**

Наўрад ці ўсе адказы атрымаліся зусім суб'ектыўныя, бо такое цяпер, мусіць, і немагчыма. Рэспандэнты старэйшага веку, у большай ступені павязаныя карпаратыўнымі інтарэсамі й стэрэатыпамі пакаленьня, менш назвалі маладых аўтараў. Маладзейшыя, для якіх літаратурныя падзеі 10-20-30-гадовае даўнасьці засталіся за даляглядам, — часьцей згадвалі толькі што прачытанае ў пэрыёдыцы, прычым кожны меў на ўвазе сваё кола чытаньня: свае аўтары на слыху ў асяродзьдзі «Маладосьці», свае — у суполцы А.Глёбуса, свае — у навапалачанаў і г. д. Але ў сукупным выніку анкеты прадстаўленыя ўсе, і ў значнай ступені тыя, хто займаецца літаратурнай практыкай прафэсійна. Нават пры перавазе якога-кольвек асяродку асноўныя тэндэнцыі засталіся б ранейшыя. Бо яны гарантаваныя колькасьцю апытаных.

Ніжэй друкуюцца самі адказы — прыблізна палова агульнай колькасьці. Эскізы густаў.

Дзеля эканоміі месца мы падаем толькі прозьвішчы аўтараў і скарочаныя назвы шырака вядомых твораў. Там, дзе адказы надта выбіваюцца з шаблёну, пакінуты аўтарскі варыянт.

**БЕЛАРУСКАЯ ПАВАЕННАЯ ЛІТАРАТУРА**

**10 кніг з асабістае бібліятэкі**

**Уявіце сабе, што ўся пасьляваенная беларуская літаратура (паэзія й проза) прадстаўленая на вашай паліцы ў 10 кнігах. Гэта толькі тое, што Вам сапраўды патрэбнае, што Ваша, асабістае. Без уліку глябальных інтарэсаў і патрэбнасьцяў. Назавіце, калі ласка, гэтыя 10 кніг у адвольным парадку.**

**Умовы такія: адна кніга — адзін аўтар. Калі гэта вершы ці апавяданьні — назавіце зборнікі ці нізкі, якія ўвойдуць у кнігу. Калі аповесьці й раманы — якія? Калі хочаце, дайце кароткія тлумачэньні. Кніг можа быць і менш, але ня больш за 10. (Дакладней, мы надрукуем увесь Ваш сьпіс, але пры падліку важныя будуць толькі 10 першых пазыцыяў.)**

**Зразумела, што ніводзін са сьпісаў, якія атрымае Рэдакцыя, ня будзе аб'ектыўны. Але мы мяркуем апытаць шмат дасьведчаных і актыўных у літаратуры людзей, і зь іх меркаваньняў паспрабуем вызначыць сёньняшні сукупны погляд.**

**Нагадваем, што сьпіс мусіць адпавядаць толькі Вашым асабістым патрэбам. Але Ваш сьпіс ня мусіць быць ананімны.**



## Валянцін Акудовіч:

*1. Стральцоў. На ўспамін аб радасьці*
*2. Караткевіч. Хрыстос...*
*3. Геніюш. Споведзь*
*4. Ермаловіч. Старажытная Беларусь*
*5. Мележ. Людзі на балоце*
*6. Быкаў. Сотнікаў.*
*7. Чорны. Млечны шлях*
*(для мяне гэта пасьляваенная проза)*
*8. Гесэ. Гульня шкляных пэрлаў*
*(пер. В.Сёмухі)*
*9. Панчанка. Іранскі дзёньнік*
*10. Канчэўскі. Адвечным шляхам*

## Уладзімер Арлоў:

*1. Караткевіч. Каласы...*
*2. Караткевіч. Мая Іліяда*
*3. Быкаў. Знак бяды*
*4. Стральцоў. Смаленьне вепрука*
*5. Барадулін. Сьвята пчалы*
*6. Разанаў. Вастрыё стралы*
*7. Брыль. Мініятуры розных гадоў*
*8. Мележ. Людзі на балоце*
*9. Геніюш. Невадам зь Нёмана*
*10. Арсеньнева. Між берагамі*
*11. Геніюш. Споведзь*
*12. Караткевіч. Хрыстос...*

*P.S. Падлік можна весьці і ззаду наперад. Не, лепей усё ж сьпераду, каб трапіла «Мая Іліяда».*

## Ігар Бабкоў:

*1. Разанаў. Выбранае*
*2. Мінкін. Вершы й пераклады*
*3. Сапач. Ненапісанае*
*(выбраныя вершы й навэлы)*
*4. Наварыч. Выбранае й ненапісанае*
*5. Глёбус. Выбраная проза й паэзія*
*6. Арлоў. Выбраная проза й паэзія*
*7. Яновіч Сакрат. Імпрэсіі й мініятуры*
*8. Караткевіч. Выбранае*
*9. Дубавец. Выбраная проза*
*10. Францішак Эн. Гайд Парк (раман)*

*Вядома, беларуская пасьляваенная літаратура гэтым не вычэрпваецца. Таму — гэта кнігі, што выклікаюць чыста літаратурную (а не літаратуразнаўчую, канцэптуальную й г.д.) цікавасьць. Да таго ж, я сьвядома не ўлічыў беларускую «заморскую» літаратуру.*

## Алесь Бадак:

*1. Быкаў. Мёртвым не баліць*
*2. Караткевіч. Дзікае паляваньне...*
*3. Мележ. Людзі на балоце*
*4. Брыль. Ад сяўбы да жніва. Выбранае*
*5. Адамчык. Чужая бацькаўшчына*
*6. Жук Алесь. Паляваньне на Апошняга Жураўля*
*7. Барадулін. Сьвята пчалы*
*8. Баравікова. Каханьне*
*9. Танк. Выбранае (любое выданьне)*
*10. Сыс. Пан Лес*

## Лявон Баршчэўскі:

*1. Быкаў. Мёртвым не баліць*
*2. Арсеньнева. Між берагамі*
*3. Мележ. Людзі на балоце*
*4. Разанаў. Каардынаты быцьця*
*5. Адамчык. Чужая бацькаўшчына*
*6. Караткевіч. Хрыстос...*
*7. Барадулін. Сьвята пчалы*
*8. Брыль. Ніжнія Байдуны*
*9. Арлоў. Там, за дзьвярыма*
*10. Сёмуха. Прыйдзі, стваральны дух...*

## Алесь Бяляцкі:

*1. Адамчык. Чужая бацькаўшчына. Год нулявы*
*2. Караткевіч. Каласы... Дзікае паляваньне...*
*3. Брыль. Выбранае (Золак, убачаны здалёк)*
*4. Быкаў. Знак бяды. Яго баталён. Пайсьці і не вярнуцца*
*5. Арсеньнева. Выбранае*
*6. Салавей. Выбранае*
*7. Юхнавец. 1-ы том Твораў і «Шорах моўкнасьці»*
*8. Барадулін. Выбранае*
*9. Мінкін. 1 і 2 зборнікі*
*10. Разанаў. 2, 3 і 4 зборнікі*

## Пятро Васючэнка:

*1. Арсеньнева. Між берагамі. Н.-Ёрк, 1979*
*2. Брыль. Ніжнія Байдуны*
*3. Быкаў. Мёртвым не баліць*
*4. Быкаў. Сотнікаў*
*5. Геніюш. Белы сон. Мн., 1990*
*6. Караткевіч. Ладзьдзя роспачы*
*7. Разанаў. Шлях-360. Мн., 1981*
*8. Стральцоў. Выбранае. Мн., 1987*
*9. Тутэйшыя. Мн., 1989*

## Сяржук Вітушка:

*1. Караткевіч. Ладзьдзя роспачы*
*2. Караткевіч. Хрыстос...*
*3. Караткевіч. Маці ўрагану*
*4. Бембель. Саната ростані*
*5. Янкоўскі. Абразкі*
*6. Разанаў. Вершасказы*
*7. Анатоль Сыс. Пан Лес*
*8. Клімковіч, Шайбак. Нагавіцы сьвятога Георгія*

*... да гэтых кніжак ня раз мусіў вяртацца, перачытваць, праігрываць (пераігрываць) ролі пэрсанажаў гэтых твораў ці на тэатральнай сцэне ці ў сапраўдным жыцьці. Некалькі твораў у гэтым сьпісе, праўда, пакуль ня выдрукаваныя асобнымі кніжкамі, хаця заслугоўваюць на тое. Прынамсі я ўжо «паставіў» іх на сваю паліцу.*

## Л.Галубовіч:

*1. Танк. Прайсьці празь вернасьць (зб. вер., 1979)*
*2. Куляшоў. Маналёг (зб. вер. і паэмаў, 1989)*
*3. Адамчык. Дзікі голуб (кн. апав., 1972)*
*4. Барадулін. Белая яблыня грому (выб. паэзія, 1979)*
*5. Разанаў. Шлях-360 (зб. паэзіі, 1981)*
*6. Стральцоў. Выбраныя творы (1987)*
*7. Някляеў. Галубіная пошта (выб. паэзія, 1987)*
*8. Сыс. Пан Лес (зб. вер., 1989)*
*9. Ермаловіч. Старажытная Беларусь (1990)*
*10. Дубавец. Практыкаваньні (1992)*

## Адам Глёбус:

*1. Клімковіч, Шайбак. Vita brevis*
*2. Адамчык. Чужая бацькаўшчына*
*3. Сьцяпан. Вежа*
*4. Наўроцкі. Валун*
*5. Сыс. Пан Лес*
*6. Брыль. Вітражы*
*7. Стральцоў. Выбранае*
*8. Караткевіч. Нельга забыць*
*9. Адамчык. Дзікі голуб*
*10. Разанаў. Шлях-360*

## Л.Дранько-Майсюк:

*1. Стральцоў. Выбранае. 1987*
*2. Барадулін. Сьвята пчалы. 1975*
*3. Някляеў. Знак аховы. 1983*
*4. Разанаў. Вастрыё стралы. 1988*
*5. Вярцінскі. Ветрана. 1979*
*6. Галубовіч. Таемнасьць агню. 1984*
*7. Булыка. Сынтэз. 1988*
*8. Мінкін. Сурма. 1985*
*9. Баравікова. Люстэрка для самотнай. 1993*
*10. Бабкоў. Solus Rex. 1993*

*Бараніў жанр.*

## Галіна Дубянецкая:

*1. Караткевіч. Ладзьдзя роспачы*
*2. Разанаў. Назаўжды. Каардынаты... Шлях-360. Вастрыё стралы*
*3. Мінкін. Сурма. Расколіна*
*4. Ніцка. Шарая гадзіна*
*5. Сыс. Пан Лес*
*6. Сапач. Восень*
*7. Бабкоў. Solus Rex*
*8. Зьніч. Саната ростані*
*9. Ліставей. Саната поўні*
*10. Сільнова. Ластаўка ляціць*

## Сяргей Кавалёў:

*1. Караткевіч. Каласы...*
*2. Караткевіч. Хрыстос...*
*3. Караткевіч. Зь вякоў мінулых.*
*4. Семашкевіч. Бацька ў калаўроце.*
*5. Разанаў. Шлях-360*
*6. Мінкін. Сурма*
*7. Дранько-Майсюк. Вандроўнік*
*8. Глёбус. Парк*
*9. Сербантовіч. Жаваранак у зэніце. Менск, 1989*
*10. Геніюш. Споведзь*

*Як і патрабавалася ў прадмове да анкеты, вызначыў кнігі не найбольш значныя і важныя для бел. літ-ры (напр., кнігі В.Быкава, І.Мележа), а найбольш блізкія, улюбёныя для мяне асабіста. Такім чынам, кіраваўся ня столькі розумам і літаратуразнаўчымі крытэрыямі, колькі пачуцьцём — пачуцьцём асалоды ад чытаньня. Сярод пералічаных кніг — тыя, якія заўсёды пад рукою і тыя, якія найбольш паўплывалі калісьці на фармаваньне эстэтычнага густу (напр., кнігі А.Разанава, А.Мінкіна) і на выбар жыцьцёвага шляху (кнігі У.Караткевіча).*

## Аляксей Каўка:

*Імёны — толькі тых, хто адыйшлі й нічым лепшым (ці слабейшым) патомных болей не адораць.*

*1. Дзёньнік Кузьмы Чорнага // Полымя, 1988, красавік*
*2. Салавей. Нятускная краса. Нью-Ёрк — Мэльбурн, 1982*
*3. Стральцоў. Выбранае. Менск, 1987*
*4. Караткевіч. Быў. Ёсьць. Буду*
*5. Геніюш. Споведзь*
*6. Вядзьмак Лысагорскі. Сказ пра Лысую Гару*
*7. Скрыган. Некалькі хвілін чужога жыцьця*
*8. Куляшоў. Варшаўскі шлях*
*9. Макаёнак. Драматычны твор, што не пабачыў сьвету, — рукапіс зьнішчаны (нішчаць, зазвычай, лепшае) ў лёхах КГБ БССР (згадка кампэтэнтнае асобы з гэтае ж фірмы падчас майго знаёмства ў жніўні 1992 г. зь сьледчымі справамі «беларускіх нацдэмаў»).*
*10. Па адным вершы ў Броўкі (позьняга), Дзяргая, Пысіна, Гаўрусёва, Сербантовіча, Янішчыц. Але каму зь іх аддаць перавагу?*

## Зьміцер Колас:

*1. Быкаў. Знак бяды*
*2. Караткевіч. Хрыстос...*
*Гэтыя два творы, падазраю, пазначаць блізка да 100% вашых рэспандэнтаў.*
*3. Сыс. Выбранае*
*4. Разанаў. Выбранае*
*Вызначыць пералік канкрэтных вершаў гэтых аўтараў, што ўвайшлі б у зборнікі выбранага, цяжка. Шмат вартага друкавалася ў пэрыёдыцы, якая ў мяне, на жаль, не захавалася. Таму засталося ўражаньне, хоць канкрэтыка зьнікла. Але і ў таго, і ў другога ёсьць досыць такога, што хацелася б мець на асабістай паліцы.*
*5. Ня ведаю, ці адрозьніваеце вы ў вашай анкеце беларускую літаратуру ад беларускамоўнай. Калі не, дык астатнія пазыцыі я запоўніў бы перакладамі, сярод якіх назваў бы: Г.Гесэ. Гульня шкляных пэрлаў і Эклезіяст (Пер. В.Сёмухі).*

## Уладзімер Конан:

*1. Барадулін. Неруш*
*2. Санэты Шэкспіра ў пер. Ул.Дубоўкі*
*3. Караткевіч. Мая Іліяда*
*4. Быкаў. Праклятая вышыня*
*5. Пташнікаў. Алімпіяда*
*6. Разанаў. Вастрыё стралы*
*7. Гілевіч. Родныя дзеці*
*8. Казько. Неруш*
*9. Карамазаў. Пушча*
*10. Асіпенка. Лябірынты страху*

## Павал Лойка:

*1. Мележ. Палеская хроніка*
*2. Брыль. Золак, убачаны здалёк*
*3. Караткевіч. Зь вякоў мінулых (б-ка бел. прозы, бо шмат што ўзяў бы)*
*4. Дамашэвіч. Інтэрнат (?)*
*5. Быкаў — многія творы, але што ўразіла са школы — Жураўліны крык*
*6. Вярцінскі — паэт, якога вельмі люблю, можа «Тры цішыні»*
*7. Сіпакоў — Веча славянскіх балад, але ня ўсе*
*8. Дайнека — Меч князя Вячкі, бадай, лепшае на гіст. тэму ў пасьляКараткевічавы час*
*9. Арлоў — можа, Мой радавод да 5-га калена*
*10. Лойка — Францішак Скарына — не магу ж я ня ўзяць ніводнай бацькавай кнігі, многія зь іх лічу вартымі*

## Адам Мальдзіс:

*1. Караткевіч. Каласы...*
*2. Быкаў. Знак бяды*
*3. Барадулін. Неруш*
*4. Сказ пра Лысую Гару*
*5. Кісялёў (складальнік). Пачынальнікі*
*6. Калесьнік. Ветразі Адысэя*
*7. Мядзёлка. Сьцежкамі жыцьця*
*8. Лойка. Сонца маладзіковае*
*9. Іпатава. Прадслава*
*10. Разанаў. Шлях-360*

## Ян Максімюк:

*1. Разанаў. Вастрыё стралы*
*2. Бабкоў. Дзёньнік спадара Дэкарта*
*3. Глёбус. Трапэцыя*
*4.*
*5.*
*6.*
*7. Быкаў. Аблава*
*8. Адамчык. Чужая бацькаўшчына*
*9. Пташнікаў. Мсьціжы*
*10. Стральцоў. Эсэ пра М.Багдановіча*

## Алег Мінкін:

*1. Караткевіч. Хрыстос...*
*2. Быкаў. Знак бяды*
*3. Разанаў. Каардынаты быцьця*
*4. Сыс. Пан Лес*
*5. Бабкоў. Solus Rex*
*6. Арлоў. Там, за дзьвярыма*
*7. Стральцоў. Выбранае*
*8. Глёбус. Парк*
*9. Наўроцкі. Гарачы сьнег*
*10. Купрэеў. Вершы*

## Сяргей Панізьнік:

*1. Бічэль-Загнетава*
*2. Скарынкін Ул.*
*3. Зб-к гіст. літ-ры (Тарасаў Сяргей...)*
*4. М.Чарняўскі (гіст.)*
*5. Геніюш і — пакутніцкая тэма*
*6. Зб-к нар. тв. — гістарычн. баллады, песьні...*
*7. Быкаў — апавяданьні...*
*8. Зб-к вершаў пра вёску: назвы вёсак у вершах*
*9. В.Іпатава — апошнія апавяданьні гіст.*
*10. Легенды, паданьні ў перастварэньні суч. аўт.*

## Барыс Пятровіч:

*Перагледзеў на паліцах кнігі, што маю. І яшчэ раз упэўніўся: чытаць у беларускай*

Працяг на старонках 6-7



# СТРАКАЗІНАЕ ВОКА

Працяг са старонкі 5

*пасьляваеннай літаратуры ёсьць што, а вось перачытваць, «смакаваць» — няма чаго... Таму пакідаю вашую анкету без адказаў.*

*Зрэшты (і тут я не баюся супярэчыць самому сабе), калі б абставіны вымусілі ў невяртальную дарогу прыхапіць з сабою некалькі кніжак, то ўзяў бы «Шлях-360» Алеся Разанава, яго ж «Вастрыё стралы», 5 том збору твораў Янкі Брыля, «Выбранае» Міхася Стральцова, «Выбранае» ж з У.Караткевіча («Хрыстос прызямліўся ў Гародні» й вершы), У.Арлова (негістарычныя апавяданьні й вершы ў прозе) і Біблію па-беларуску...*

## Вячаслаў Рагойша:

*1. Танк. Мой хлеб надзённы (асобныя вершы)*
*2, Панчанка. Пры сьвятле маланак*
*3. Мележ. Людзі на балоце*
*4. Брыль. Птушкі й гнёзды*
*5. Караткевіч. Каласы...*
*6. Караткевіч. Матчына душа*
*7. Барадулін. Маладзік над стэпам*
*8. Лойка. Задуменныя пралескі (паэма «Лясная песьня»)*
*9. Гілевіч. Замовы*
*10. Стральцоў. Загадка Багдановіча*

## Мікола Раманоўскі:

*1. Караткевіч («Хрыстос», «Лег. аб бедным д'ябле», «Дз. паляваньне», «Ладзьдзя роспачы», вершы, etc. колькі ўлезе. Том выйдзе здаровы)*
*2. Наўроцкі (усё)*
*3. Быкаў (колькі ўлезе)*
*4. Дранько-Майсюк. Вандроўнік*
*5. Геніюш. Споведзь. Вершы*
*6. Стральцоў [?]*
*7. Мінкін (вершы)*
*8. Разанаў (усё)*
*9. Пацюпа (што напісаў і што яшчэ напіша)*
*10. Шэкспір. Трагедыі, камэдыі, санэты**

** 1. Пераклад — таксама зьява літаратуры.*
*2. Занятак беларускага літаратара перакладам — такая сама праява беларускае культуры, як і ягоны занятак уласнай творчасьцю.*
*3. Перакладаў, як і арыгінальных рэчаў, ніхто не чытае.*
*4. Мова перакладаў бывае ня горшаю (ці ня лепшаю), а часта цікавейшаю за мову арыгінальных беларускіх рэчаў.*
*5. І самі пераклады часта цікавейшыя за арыгінальную бел. літ.*
*6. Дык на добры толк цяпер бы ім стаіца магістральнай лініяй разьвіцьця бел. л.*
*7. І памалу так і робіцца, пакуль арыгінальныя аўтары намагаюцца нешта зь сябе выпісаць і перасягнуць тых, каго яны не чыталі.*

## Таццяна Сапач:

*1. Караткевіч. Зь вякоў мінулых*
*2. Пфляўмбаўм. Выбраныя вершы*
*3. Брыль. Ніжнія Байдуны. Золак, убачаны здалёк*
*4. Быкаў. Мёртвым не баліць. Сотнікаў. Аблава*
*5. Мінкін. Вершы, пераклады*
*6. Караткевіч. Выбраныя вершы*
*7. Стральцоў. Проза*
*8. Глёбус. Парк. Аповесьці ў навэлах*
*9. Сыс. Пан Лес. Ягамосьць*
*10. Баравікова. Выбраныя вершы*

## Васіль Сёмуха:

*1. Быкаў. Знак бяды*
*2. Брыль. Ніжнія Байдуны*
*3. Караткевіч. Хрыстос...*
*4. Пташнікаў. Тартак*
*5. Арсеньнева. Між берагамі*
*6. Стральцоў. Смаленьне вепрука*
*7. Наўроцкі. Неба ўсьміхаецца маланкамі*
*8. Vizma Belševīca. Dzējoli* (Вершы)*
*9. Дубоўка. Санэты Шэкспіра (пераклады)*
*10. Барадулін. Сьвята пчалы*

** Пры любым наборы кніг гэты пункт у мяне абавязковы. V.B., на мой погляд, важная для беларускай літаратуры тым, што цалкам адсутнічае ў ёй, не прынятая ў нас і не зразуметая. Такога тыпу паэтаў, зь ейнаю праблематыкай, у нас няма — і гэта таксама характарызуе тып беларуса. Але гэта — справа літаратуры, а анкета дазваляе сказаць пра свае «асабістыя патрэбы», таму й не магу абыйсьціся безь яе ні ў анкеце, ні, асабліва, у перакладчыцкай практыцы.*

## Алег Трусаў:

*1. Караткевіч. Дзікае паляваньне...*
*2. Брыль. Птушкі й гнёзды*
*3. Быкаў. Кар'ер*
*4. Разанаў. Шлях-360*
*5. Геніюш. Споведзь*
*6. Мальдзіс. Восень пасярод вясны*
*7. Булыка. Сынтэз*
*8. Мележ. Палеская хроніка*
*9. Ялугін. Без эпітафіі*
*10. Гілевіч. Незалежнасьць*

## Галіна Тычка:

*1. Разанаў. Каардынаты быцьця*
*2. Брыль. Жменя сонечных промняў*
*3. Стральцоў. Проза*
*4. Быкаў. Знак бяды*
*5. Карамазаў. Крыж на зямлі і поўня ў небе*
*6. Купрэеў. Вершы*
*7. Адамовіч. Браму скарбаў сваіх адчыняю*
*8. Барадулін. Выбранае*
*9. Куляшоў. Хамуціус*
*10. Танк. Выбранае*

## Міхась Тычына:

*1. Стральцоў. На ўспамін аб радасьці*
*2. Караткевіч. Хрыстос...*
*3. Танк. Глыток вады*
*4. Мележ. Людзі на балоце*
*5. Адамовіч А. Вайна пад стрэхамі*
*6. Быкаў. Знак бяды*
*7. Разанаў. Каардынаты быцьця*
*8. Адамчык. Дзікі голуб*
*9. Брыль. Ніжнія Байдуны*
*10. Барадулін. Смаргонская акадэмія*

*Але ёсьць патрэба ў камэнтары. Так мала ў нас твораў, кніг для душы! М.Стральцоў амаль увесь мой. Як бы я сам гэта. У.Караткевіч амаль увесь. За выключэньнем хіба задужа сацыяльных «Каласоў». Наогул жа гэтая самая сацыяльнасьць якраз і палохае — страшна ўявіць, што нейкія рэчы я асуджаны чытаць як гісторык літаратуры яшчэ раз. Ізноў мяне будзе калаціць страх за лёс герояў, якія для мяне жывейшыя за жывых. Мне да душы не літаратурны паўтор таго, што пражыта ўжо ў рэальнасьці, а «зямля запаветная», куды мкну я сам і куды вядзе мяне, скажам, Стральцоў (не Барыс!) зь ягоным — «Там, дзе зацішак, спакой» (няхай сабе міжвольная рэмінісцэнцыя з Хемінгуэеўскага — «Там, дзе чыста й сьветла»). У горшым выпадку, калі беларускага Камю («Спатканьні ў Ціпаса») няма, задаволюся сьвятам карнавалу ў вершах Барадуліна, у «Ніжніх Байдунах» Брыля. Вясковая палавіна мае натуры ахвотна прымае месячнае сьвятло Мележавых «Людзей» і начную трывогу «Дзікага голуба» Адамчыка. А так бы мовіць, настаўніцка-інтэлектуальная палавіна, як другі бок месяца, затоена назірае за ігрой думкі і ўяўленьня ў зіхотка-чорным небе Разанава й Адамовіча. Недзе на мяжы гэтых палавінак пераломваецца й крываточыць проза Быкава, шукае ратунку ў гераічным самастаяньні паэзія былога падпольшчыка Танка. Выхад мроіцца ў «новай прозе» (Глёбус, Федарэнка, Васючэнка, Дубавец, Арлоў, Мінкін, Асташонак, Міра Лукша), «трэцяя рэальнасьць» якое шмат у якіх парамэтрах супадае з вопытам уласнай душы, так і не выяўленым маімі аднагодкамі-«сямідзясятнікамі», што завязьлі ў побыце, як у смале. На жаль, твораў шмат, але аднаго Твора, які ўпісаўся б на 1-ую лінейку, пакуль няма. Яго, як Біблію, пішуць-твораць многія — адсюль дзіўнае, на мяжы з вар'яцтвам, уражаньне, што на цябе глядзіць вока страказы, складзенае з мноства маленькіх вочак...*

## Кастусь Цьвірка:

*1. Мележ. Палеская хроніка*
*2. Быкаў. «Мёртвым не баліць» і інш. аповесьці*
*3. Панчанка. «Іранскі дзёньнік» і інш. цыклы вершаў*
*4. Барадулін. Вершы — ад «Маладзік над стэпам» і інш.*
*5. Адамчык. Чужая бацькаўшчына*
*6. Звонак. Вершы апошніх гадоў*
*7. Лужанін. Колас расказвае пра сябе*
*8. Куляшоў. «Толькі ўперад» і інш. вершы й паэмы*
*9. Караткевіч. Матчына душа*
*10. Караткевіч. Каласы...*

## Карлас Шэрман:

*1. Быкаў. Мёртвым не баліць*
*2. Адамовіч А. Хатынская аповесьць*
*3. Разанаў. Паэма запаленых сьвечак*
*4. Барадулін. Вечальле*
*5. Мацяш. Выбранае*
*6. Лойка. Як агонь, як вада...*
*7. Зьніч. Выбраная паэзія*
*8. Мележ. Людзі на балоце*
*9. Алексіевіч. Цынкавыя хлопчыкі*
*10. Брыль, Калесьнік, Адамовіч. Я з вогненнай вёскі...*

## Язэп Янушкевіч:

*1. Творы Караткевіча*
*2. Творы Стральцова*
*3. Творы Семашкевіча*
*4. Наварыч. Рабкова ноч*
*5. Сыс. Агмень + Пан Лес*
*6. Наўроцкі. Пакаленьні й папялішчы*
*7. Творы Быкава*
*8. Творы Геніюш*
*9. Бічэль-Загнетава. Божа ж мой, Божа!*
*10. Творы Клішэвіча*

---

Апрача названых, адказалі:

Сяржук Абламейка, Славамір Адамовіч, Юрась Бохан, Паўлюк Быкоўскі, Алесь Бынькоў, Сяргей Вераціла, Генадзь Вінярскі, Алег Дзярновіч, Сяргей Дубавец, Алесь Істомін, Алесь Жлутка, Алесь Карлюкевіч, Максім Клімковіч, Уладзімер Клімовіч, Мікола Крывальцэвіч, Зьмітро Мамачкін, Мікола Матрунчык, Лана Медзіч, Вінцэсь Мудроў, Генадзь Прыбытка, Генадзь Сагановіч, Аляксандар Саламевіч, Зьміцер Саўка, Уладзімер Сіўчыкаў, Анатоль Сыс, Сяргей Харэўскі, Уладысь Цьвяткоў, Ігар Чарняўскі, Віктар Чаропка, Міраслаў Шайбак, Валерыян Янушкевіч.

Гэтыя адказы збольшага толькі дапаўняюць агульную карціну, але не зьмяняюць яе.

Сярод рэспандэнтаў няма народных пісьменьнікаў і паэтаў, хоць некаторыя зь іх і атрымалі анкеты. В.Быкаў адказваць адмовіўся («Шкалярства! Трэба ў крытыкаў пытацца»), зь нейкай прычыны адмовіўся і Н.Гілевіч, проста не адказаў Р.Барадулін. А ўвогуле мы разьлічвалі атрымаць 100 адказаў. Але ўжо пасьля 30-ці выразны расклад абазначыўся і далей, з новымі адказамі, не зьмяняўся.



У поўнай згодзе з умовамі анкеты мы падлічылі, які аўтар колькі разоў згадваецца, а таксама — колькі разоў згадваецца кожны твор ці зборнік. Атрымаліся два сьпісы: сьпіс папулярнасьці пісьменьнікаў і сьпіс папулярнасьці асобных твораў. Першы з гэтых сьпісаў выглядае так:

Караткевіч — 80
Разанаў — 40
Быкаў — 36
Геніюш — 24
Брыль — 21
Стральцоў — 21
Сыс — 21
Адамчык — 16
Барадулін — 16
Мележ — 16
Мінкін — 16
Арлоў — 15
Глёбус — 11
Бабкоў — 9
Адамовіч А. — 8
Арсеньнева — 8
Наўроцкі — 7
Сапач — 7
Сёмуха (перакл.) — 7
Танк — 6
Гілевіч — 5
Ермаловіч — 5
Панчанка — 5

Па чатыры разы згадваюцца наступныя аўтары:

Бембель (Зьніч), Казько, Клімковіч і Шайбак, Куляшоў, Лойка, Наварыч, Семашкевіч, Сьцяпан, Чаропка, Яновіч.

Па тры:

Баравікова, Вядзьмак Лысагорскі, Іпатава, Пташнікаў, Пятровіч, Салавей, Тарасаў К., Тутэйшыя, Чорны.

Па два:

Бічэль-Загнетава, Булыка, Вярцінскі, Галубовіч, Дайнека, Дамашэвіч, Дранько-Майсюк, Дубоўка (пераклады), Жук Алесь (Паляваньне на апошняга жураўля), Казлоў (Міражы ценяў), Карамазаў, Купрэеў, Куртаніч (Птушыным шляхам), Макаёнак, Мальдзіс (Беларусь у люстэрку мэмуарнай літаратуры. Восень пасярод вясны), Маўр (Фантамабіль праф. Цылякоўскага. Палескія рабінзоны), Някляеў, Пфляўмбаўм, Скрыган, Юстапчык (Каханы горад),

Адзін раз згаданыя:

Адамовіч С. (Зямля Ханаан), Аксак (Цьвінтар), Алексіевіч, Асіпенка, Асташонак (Фарбы душы), Блакіт, Віж (Лябірынт), Гайдук (Паратунак), Гумянюк (Водар цела), Дудараў (Парог), Дудзіцкі, Законьнікаў (Пакуль жыве мая бяроза), Звонак, Калесьнік, Каробкіна, Кіпель (Беларусы ў Амэрыцы), Кісялёў, Клімковіч (Сцэнарый сьмерці), Клімовіч (Выратаваньне безданьню), Клішэвіч, Крапіва (Байкі), Ліставей, Лукша Міра (Дзікі птах верабей), Ляўкоў (Маўклівыя сьведкі мінуўшчыны), Марчук (Вочы й сон), Мацяш, Мікуліч (Аповесьць для сябе), Місько (Грот Афаліны), Мядзёлка, Ніцка, Пацюпа, Сачанка (Дыярыуш Мацея Белановіча), Сербантовіч, Сідарук (Чарнабел), Сільнова, Сіпакоў, Скарынкін, Сокалаў-Воюш (Кроў на сумётах), Ткачоў Міх. (Людзі й замкі), Туронак (Беларусь пад ням. акуп.), Федарэнка (Гісторыя хваробы), Францішак Эн, Шніп, Шупа (пер. «1984» Оруэла), Шыцік (Зорны камень. Парсэкі за кармой. Трансплютонавыя афэліі), Юхнавец, Ялугін, Янкоўскі

Найбольш дакладны сьпіс тых, хто называецца 10 і болей разоў. Наступная градацыя амаль нічога не азначае, бо на яе можа ўплываць адзін рэспандэнт, назваўшы, напрыклад, дзьве ці пяць кніг аднаго аўтара. Нейкае імя можа быць сёньня на слыху менш, чым учора і заўтра; кніжка выйшла даўно й цяжка даступная, іншая толькі выйшла й яшчэ не чыталася — рэйтынг зьніжаецца. Ступень выпадковасьці тут вялікая. Таму гэты сьпіс цікавы як кола чытаньня сучаснае грамады. З кожным новым адказам сюды можа патрапіць яшчэ й яшчэ адно неназванае імя.

Найчасьцей згадваецца У.Караткевіч. Зусім не назвалі яго толькі 8 чалавек. А Сяргей Тарасаў ажно 8 пазыцыяў свае анкеты аддаў васьмітомніку Караткевіча, дзьве астатнія аддаўшы сэрыі БНТ і вершам А.Разанава. (Але ўвогуле прыкладаў такой катэгарычнасьці рэспандэнтаў няшмат. Яшчэ хіба Сяргей Санька назваў «Любых 10 тамоў з сэрыі БНТ» і Анатоль Сыс, які запоўніў толькі адну пазыцыю свае анкеты сваім жа яшчэ нявыдадзеным зборнікам «Ягамосьць»).

Такім чынам Караткевіч апынуўся на галаву вышэй за ўсіх астатніх пісьменьнікаў. Магчыма, такі адрыў часовы і тлумачыцца працяглым заніжэньнем ацэнкі Караткевіча. Ён — сьцяг адраджэньня, выхавальнік патрыётаў, самы беларускі й самы народны, што так і ня быў тытуляваны. Задаўненая сатысфакцыя й сёньня ставіць яго *über alles.*

Але ў сьпісе твораў і кніг Караткевіч усіх не абагнаў. Магчыма таму, што напісаў шмат і супольная ацэнка тут расфакусоўваецца на многія творы. У М.Стральцова — наадварот. Усе важнейшыя творы выдадзеныя адной кнігай, і калі падсумаваць, колькі разоў згадваецца ў анкетах «Смаленьне вепрука» + «Загадка Багдановіча» + паэтычны зборнік «На ўспамін аб радасьці», то «Выбранае» 1987 года набірае 20 пунктаў і адрываецца ад усіх астатніх кніжак. Але ж «Выбранае» — гэта фактычна некалькі кніг, калі казаць пра жанр кнігі, прыроўненай да твора.

Выніковы сьпіс папулярнасьці кніжак выглядае так (лічба паказвае, колькі разоў згадваецца гэтая кніга ці твор):

17

Разанаў. Шлях-360
Сыс. Пан Лес

15

Караткевіч. Каласы...
Караткевіч. Хрыстос...
Караткевіч. Дзікае паляваньне...
Мележ. Людзі на балоце
Разанаў. Каардынаты быцьця

14

Стральцоў. Смаленьне вепрука
Быкаў. Знак бяды

13

Разанаў. Вастрыё стралы

12

Геніюш. Споведзь
Геніюш. Белы сон
Мінкін. Сурма
Караткевіч. Ладзьдзя роспачы

11

Быкаў. Мёртвым не баліць

10

Адамчык. Чужая бацькаўшчына
Стральцоў. Загадка Багдановіча

8

Арсеньнева. Між берагамі
Бабкоў. Solus Rex
Мінкін. Расколіна

7

Брыль. Мініятуры

6

Брыль. Ніжнія Байдуны
Глёбус. Парк
Караткевіч. Выбраныя вершы
Сапач. Восень

5

Арлоў. Там, за дзьвярыма
Барадулін. Сьвята пчалы
Брыль. Золак, убачаны здалёк
Быкаў. Аблава
Быкаў. Сотнікаў

4

Арлоў. Добры дзень, мая Шыпшына
Брыль. Птушкі й гнёзды
Караткевіч. Мая Іліяда
Мінкін. Пераклады
Сьцяпан. Вежа

3

Адамовіч А. Хатынская аповесьць
Адамчык. Голас крыві брата твайго
Адамчык. Дзікі голуб, зб.
Баравікова. Выбраныя вершы
Барадулін. Выбранае
Бембель (Зьніч). Паэзія
Вядзьмак Лысагорскі. Сказ пра Лысую Гару
Глёбус. Сьмерць-мужчына
Глёбус. Адзінота на стадыёне
Ермаловіч. Старажытная Беларусь
Казько. Неруш
Караткевіч. Быў. Ёсьць. Буду.
Караткевіч. Чорны замак Альшанскі
Караткевіч. Чазенія
Караткевіч. Нельга забыць
Наўроцкі. Валун, проза
Пятровіч. Ловы
Салавей. Нятуская краса
Сёмуха. Гесэ. Гульня шкляных пэрлаў
Стральцоў. На ўспамін аб радасьці
Сыс. Ягамосьць
Сыс. Агмень
Тутэйшыя
Чаропка. Храм бяз Бога

Адзін ці два разы згадваюцца каля двухсот назваў кніг, таму выдрукоўваць іх тут няма сэнсу.

Аналіз усяго сабранага матэрыялу прыводзіць да наступных высноваў:

1. Мы атрымалі пэўную зыходную карціну вартасьцяў паваеннай беларускай літаратуры й беларускае сьведамасьці на выхадзе з савецкага пэрыяду. Усё гэта нагадвае прачыстку ад задаўненых эмацыйных коркаў, без чаго нельга пачынаць рэалістычны аналіз, «пераацэнку ўсіх каштоўнасьцяў». Трэба было прабіць гэты корак, які сядзіць у мазгох — корак крыўды, корак афіцыйных табеляў аб рангах і апазыцыйных, ужо скамянелых стэрэатыпаў, якія ніяк не маглі ўсталявацца афіцыйна.

2. Большая частка гэтага рэйтынгу будзе важная й надалей, таму што яна адпавядае гэтаму пакаленьню, гэтаму адраджэньню й гэтаму дзяржаўнаму будаўніцтву. Але пасьля сьцьверджаньня такога рэйтынгу, думка зможа разьвівацца вольна, наўзбоч ад яго. *Іншыя* ацэнкі, як заўсёды, будуць больш глыбокія за ўстойлівы масавы стэрэатып.

3. Звычайна ў такіх сьпісах папулярнасьці грамадзтва вызначае сябе, творыць свой супольны партрэт у дадзеным часе. І вось тут — пытаньне: у якой ступені грамадзтва выяўляе сваю супольную волю, а ў якой толькі рэагуе на раздражняльнік? Чаго тут болей? Гэта, бадай, самае слабое месца нашай анкеты — недавер да выніку. Недавер — штось процілеглае выяўленьню волі. Але што ёсьць мяжа гэтага падзелу і як яе пераадолець? Ілбом? Хітрай містыфікацыяй? Прывабна гучыць — працай.



# Вэрсэты Ластоўскага

## БАЯНУ

Мудрыя прытчы складаў і зычна пяяў ты, Баяне!

Пяяў яшчэ ўчора на вольных, на крыўскіх абшарах, пад гукі вячоўнага звону...

Дагэтуль туляюцца рэхі тых песень, — далёка ад скрушань замковых: у полі, у ройстах, ў кустах у лазовых, што ніцма прыпалі да ролі...

Зычаць яны ў чашках струпехлых, што ў порубах храму Сафіі, у звоне вячорным, што зь вежы, над целам чужога тутка Баболі, кліча на Ave Maria...

У показках-казках, у сэрцах збалелых, у подумах-думках нявольнага люду, глыбока таёных у сэрцы...

Вольныя песьні складаў ты, Баяне, і зычна пяяў яшчэ ўчора пра гордасьць народу, пра чэсьць крывічанскага роду.

## ЧЫРВОНЕЦ

У меставай браме, дзе люд плыве ракой і варта моцная дзень ноч пілнуе, схіліўся я й падняў чырвонец паўнаважны з-пад ног людзкіх, — якога перш ня бачылі ранейшыя хадзьбіты.

Кругом мяне натоўп зрабіўся.

Казалі мне адны, што я падняў, от, сьвежую іх згубу... Другія, — што я ня першы звочыў, што дзель яны павінны ўзяць з маей знаходкі.

Старожы ж, каб сагнаць натоўп, усім крычалі, што я місьцюк, што я кастыг за пенязь выдаю: «бо хто на бітым шляху па золаце таптаў бы чакаючы «яго» прыходу з падарожы!?!»

I ўсе паверылі старожы...

## У ЧАС АБЛОГІ

На грудзе, акружаным глыбокаю вадой, я горад збудаваў. Змацаваў яго дубоваю сьцяной, байніцамі, на зводах мост уздоймны палажыў.

У клеці зьвёз усякага дабра: — калі б на грод лягла аблога...

I вояў зрадных, лжывых, я разьлічыў, каб зь вернаю дружынай толькі дзяліць мой белы й чорны дзень...

I, от, нахлынуў вораг многі.

Ударыў я у звон трывожны. Дзынеў патужна цяжкі сьпіж... Аднак, на клік мой зоўны, ніхто ка мне не пасьпяшыў: У горадзе маім — такім мацоўным — адзін я быў!..

## ПАДАРОЖНЫ

Я клункі ўжо злажыў і сукатаю кульбою падпёршыся гляджу на раздарожы. Шляхі скрозь хомарам пакрыты... А ўкруг мяне стаяць старожы гатовыя вароты расчыніць, калі я мыта аплачу душы маей аздобамі.

Панукаю вісіць штодзенны боль няўнімны... Ідзі! квяліць дзіцятка ў калыбцы. Ідзі сычыць зьмяюга падкалодна. Ах, як душы ад брамаў тых халодна!..

Магілішчы кругом... за кождай брамаю капец... Калі ж, калі канец трудлівай будзе падарожы?

## НА ХРЭЗЬБІНАХ

Ў гасподзе сьветлай, на седзішчы высокім гасьціў у дзень урочысты яго я нарадзін. Ды плакала душа, што жоскі троп жыцьця гатуе ўжо завалы на сьцежках бадавейных.

Тры ветніцы сягоньня, з намі тут, запрадкі жыцьцёвай нітачкі тваей спраўляюць. Праклюдныя старухі! Ім ведама усё: й не зжахнуцца ані! Спакойнаю рукой бяруць у пальцы смычку і цягнуць ніць жыцьця на верацяно.

Круціся, гэй круціся вераценца! да сонца раз, у цемру раз, усё кругом, кругом... і ўсё бліжэй да долу.

Музыка грае тост. У чарах пеніцца віно. I ўсё, у такт, сьвярліць у мозгу мысьль: ці сьлёз, якія будзе ліць ў жыцьці наш навародак, гасьцей хапіла б напаіць і хто іх будзе піць?..

Тры ветніцы прадуць і ніць усё струнчэй. Званіце чарамі, іграйце тост! Хутчэй!!



*Вацлаў Ластоўскі з жонкай Станіславай падчас этнаграфічнай экспэдыцыі летам 1928 г. на Случчыне. Фотаздымак з альбому экспэдыцыі, адзіны ацалелы асобнік якога захоўваецца ў Бібліятэцы імя Ф.Скарыны ў Лёндане. Публікуецца ўпершыню.*

# Угодкі Ластоўскага ў Вільні

18 лістапада намаганьнямі Інстытуту літоўскай літаратуры ды этнаграфіі й Асацыяцыі беларусістаў Літвы у памешканьні Інстытуту адбылася навуковая канфэрэнцыя, прысьвечаная 110-й гадавіне ад нараджэньня Вацлава Ластоўскага. Было выслухана 8 дакладаў: «Вільня й Коўна ў жыцьці Ластоўскага», «Палітычная сытуацыя ў Літве й Беларусі 1915-23 гадоў», «Накід жыцьцяпісу», «Ластоўскі — ідэоляг беларускага моўнага пурызму», «Ластоўскі — дзецям», «Ластоўскі й літоўская літаратура», «Ідэалёгія старое дзяржаўнасьці ў нацыянальным адраджэньні». Уступным словам канфэрэнцыю адкрыў дырэктар Інстытуту праф. Леанард Саўка, асноўны даклад прачытаў Лявон Луцкевіч. Пра невядомыя ды спрэчныя эпізоды жыцьцяпісу В.Ластоўскага распавёў Сяргей Шупа. Прынцыпова новым было ягонае сьцьверджаньне адносна пераезду Ластоўскага ў 1927 годзе ў БССР. Ластоўскі не спакусіўся на савецкую беларусізацыю, як гэта разглядалася раней. Проста ва ўмовах ковенскай маральнай і палітычнай ізаляцыі, у якой ён апынуўся, гэта выглядала лепшым з усіх тупіковых выйсьцяў. Засталося няясным, дзе быў Ластоўскі 25 сакавіка 1918 году — у Менску ці ў Вільні. На канфэрэнцыі выступілі госьці зь Менску: праф. Анатоль Грыцкевіч, Вінцук Вячорка і спадарыня Хрышчановіч. Ініцыятарам канфэрэнцыі была старшыня асацыяцыі спадарыня Альма Лапінскене. Пасьля канфэрэнцыі адбылася дыскусія.

*Прысутны*

# А.Адамовіч пра В.Ластоўскага

Гутарка супрацоўніка «НН» Сяргея Шупы з Антонам Адамовічам, якая адбылася 10 лютага 1992 г. у Ню-Ёрку і ў якой бралі ўдзел Вітаўт Кіпель і Антон Шукелойць.

***«НН»: Ластоўскі. Калі Вы ўпершыню ўбачылі яго?***

Калі была ў Менску канфэрэнцыя ў справе рэформы беларускае азбукі й правапісу. У дваццаць шостым годзе. I, значыцца, Ластоўскі прыехаў і выступаў праз радыё, і тады я яго ўпершыню ўбачыў. Перш за ўсё я ня ведаў, што ён шапялявіць...

***В.К.: Што, у яго зубоў не было?***

Не, проста так: ш-шапялявіў, фізычны такі дэфэкт. А так ён, ну, такі быў мажны...

***«НН»: Ці мова ў яго была такая, якою ён пісаў?***

О, так. Такой мовай ён і гаварыў.

***«НН»: А Вы дагэтуль чулі пра яго?***

Ну, так. Пра Ластоўскага было ведама адразу, мы ведалі: Луцкевіч, Ластоўскі, іх уважалі за галоўных. Луцкевіч Іван, Луцкевіч Антон і Ластоўскі. Пасьля казалі, што ў Ластоўскага былі нейкія спрэчкі з Антонам...

***«НН»: А ці свабодна ў БССР хадзіў «Крывіч», якімі каналамі ён даходзіў?***

«Крывіч» праз Бібліятэку дзяржаўную... так, даходзіў часам. Выходзілі яшчэ «Савецкая Беларусь» і «Работніца-сялянская Беларусь» беларускіх эсэраў... І яны расклейваліся на вуліцах таксама... Я памятаю, што прыехаў з вакацыяў... быў у сваіх сваякоў... і адразу бачу, ага, значыцца, «Крывіч»... у газэце — пра гэтага «Крывіча». Вось. Тады ў Бібліятэцы, там Бібіла такая была, вось праз Бібілу я ўжо гэтага «Крывіча» пабачыў. Тады ў нас была такая нелегальная маладзёжная арганізацыя на ўзор камсамолу, беларуская. Беларуская юнацкая грамада звалася. БЮГ. А тады, калі даведаліся, што Ластоўскі прапануе крыўскі назоў, то ўжо звалася КБЮГ. Гэта былі адзінкі па тры чалавекі. Знал толькі тры чалавекі. Адзін знаў двух яшчэ. Такім парадкам, нелегальным. Як гэта калісьці ў расейскіх дзекабрыстаў...

***«НН»: І калі гэта было? Пра гэта ніхто не пісаў.***

Я пісаў калісьці...

***«НН»: Хто яшчэ належаў да гэтае Грамады?***

Пятрусь Рагачэўскі, Гінтаўт, ну я, вот тры.

***«НН»: Якая была роля Ігнатоўскага ва ўсім гэтым?***

Ігнатоўскага шмат хто зваў «Бацькам», бо ён з камуністых быў адзіны такі найбольш выдатны. Ягоныя сыны таксама былі... Другі то быў Валік, тады як мы радыё пачыналі, дэтэктарныя апараты пачыналі рабіць, то ён тады быў з намі. Бо яшчэ лямпавых апаратаў цяжка было... там нейкі быў адзін лямпавы, паўлямпавы быў...

***«НН»: Ці «Крывіч» на той час афіцыйна лічыўся ня надта пажаданым чытаньнем?***

Ясна, што лічыўся, уяўлялася, што гэта нейкая кантрабанда.

***«НН»: Але адкрыта ён нідзе не прадаваўся?***

О, ну дзе там, нічога не прадавалася.

***«НН»: А заходнебеларускі друк?***

Таксама, у бібліятэцы можна было бачыць.

***«НН»: Калі ў Менску зьявілася «Гісторыя крыўскай кнігі»?***

Ён сам прывёз, калі на канфэрэнцыю прыехаў. Прывёз штук пару, ці тры. Я ведаю, што адну ён Дубоўку даў, з надпісам. І, здаецца, Бабарэку таксама даў. Ігнатоўскаму, мусіць... Адным словам, няшмат, бо ён жа шмат ня мог узяць з сабой, гэта ж былі важкія такія кнігі...

***«НН»: Масава яна так і ня трапіла ў Менск?***

Не...

***«НН»: А «Слоўнік»?***

Таксама й «Слоўнік». Раней ён можа й даходзіў, да Касьпяровіча. Там быў такі Касьпяровіч, «Віцебскі краёвы слоўнік», то яны неяк перагукваліся, адзін з другога бралі. Слоўнікавая камісія была ў Інстытуце Беларускае Культуры, вот туды ён даходзіў.

***«НН»: А Вы самі які ўдзел бралі ў канфэрэнцыі?***

Перш за ўсё я ж тады ў радыё працаваў... Які ж больш там удзел?.. Падаваў для канфэрэнцыі свае меркаваньні ў справе рэформы...

***«НН»: І калі Ластоўскі выступаў праз радыё, то Вы як работнік радыё зь ім сутыкнуліся? Ён дзяліўся ўражаньнямі з канфэрэнцыі?***

Так. У яго выступленьне агульнае было такое, у справе Беларушчыны, беларускага руху, ну, і ў справе рэформы.

***«НН»: Праз нейкі час Ластоўскі перабраўся ў Менск. Ці як-небудзь гэта камэнтавалася ў грамадзтве?***

Былі дзьве такія думкі, наколькі я магу цяпер успомніць: адна думка — добра, што ён тут будзе, а другая — што ён тут ня здолее ўсяго сказаць, што ён там мог бы.

***«НН»: Гэта ўжо адчувалася?***

Так.

***«НН»: Ці не гаварылі Вы з Ластоўскім, чаму ён прыехаў у Менск, ці не шкадуе, ці не зьбіраецца вярнуцца? Ці ён сам нешта казаў пра гэта?***

Ён сам нічога... Там да яго прыставілі сакратара. Сакратар гэты ці ня быў савецкім агентам.

***«НН»: Як Ластоўскі ў Музэі працаваў, ці Вы тады сутыкаліся зь ім?***

Ну, пэўна ж, сутыкаліся, прыходзілі да яго ў пэўны дзень па абедзе — у сераду ці ў чацьвер, і зь ім гаварылі. Ён па абедзе адпачываў, спаў троха, і, значыцца, ужо паспаўшы, з намі гаварыў нейкую гадзіну. Ну, мы ў яго пыталіся пра розныя рэчы: і пра часы «Нашай Нівы»...

***«НН»: Ці Ўлашчыка Вы ўжо ведалі? Ці ён таксама да яго прыходзіў?***

Так. Улашчык спатыкаўся таксама. Але Ўлашчык, ён наагул менш палітыкай цікавіўся. Ён больш сваёй гісторыяй, летапісамі...

***«НН»: А дзе жыў Ластоўскі?***

Там жа пры Музэі.

***А.Ш.: Таго доміку цяпер няма, гэта там стаіць танк. У комплексе Архірэйскага падвор'я. Скажыце, а ў гэтым доміку Ластоўскі жыў разам зь Ігнатоўскім? Ластоўскі на нізе ці на версе?***

Наверсе, па-мойму, Ластоўскі... Там, дзе Музэй, там і Ластоўскі быў.

***В.К.: І яго ў Менску пасьля, як ужо арыштавалі... ён ні разу не прыяжджаў?***

Па-мойму, ужо не...

***В.К.: Яго арыштавалі ў 30-м годзе?***

Не, мусіць, раней... Калі іх першых арыштоўвалі... Ластоўскага, яшчэ такі быў Ільючонак, там было чалавек колькі ўсяго. А тады ўжо пайшлі й мы, значыцца, масавыя... А гэта ў лютым месяцы, мусіць. Першага ўзялі Нічыпара Чарнушэвіча...

***«НН»: У чым палягала дзейнасьць Вашай Грамады? Ці была нейкая праграма?***

Ну, праграма была такая: незалежная Беларусь, і ўсё тут. Тады ж быў верш Купалы «Перад будучыняй». Я чуў, як ён сам чытаў. У яго ўжо была губа спараліжаваная. Там, значыцца, у гэтым вершы, ёсьць усё. «Стаім мы перад будучыняй нашай, і ўсё варожым, сочым ейны ход...» Пасьля гэта было выдрукавана ў такім... такі часопіс выйшаў, ужо пачаліся прыватныя выдавецтвы, як быццам прыватныя. І вось, выдавецтва «Адраджэньне». Пасьля яно перайменавалася ў «Савецкую Беларусь». То ў гэтым часопісе «Адраджэньне» быў выдрукаваны гэты верш.

***«НН»: Гэта ўсё яшчэ да прыезду Ластоўскага?***

Так. Але ж яно і далей было. Яно працягвалася. Была ўкраінская СВУ, была СВБ [Саюз Вызваленьня Беларусі. — Рэд.]. І хітра зрабілі, што як будуць... дык СВБ — Саюз ваяўнічых бязбожнікаў.

***«НН»: Значыць, ён рэальна існаваў?***

О, так.

***«НН»: Не НКВД прыдумала?***

Не-не-не. СВБ. Саюз ваяўнічых бязбожнікаў...

# РАДАВОД МІЦКЕВІЧА

Сяргей Рыбчонак



***«Адам Міцкевіч — жыд, паляк, летувіс, беларус...» Пад такой назвай у «НН» № 4 за 1991 год мы надрукавалі ўрывак з эсэ Чэслава Мілаша, дзе йшла гаворка пра паходжаньне паэта. Сёньня — працяг тэмы радаводу А.Міцкевіча на архіўных матэрыялах. Апрача матыву жыдоўства паэтавай маці зьяўляецца яшчэ адзін матыў: Міцкевічы — не дваране.***

Адзінай мэтай гэтага артыкула зьяўляецца высьвятленьне гензалёгіі Адама Міцкевіча па бацькоўскай і мацярынскай лініях.

Паводле даўно вядомай гістарычнай традыцыі Адамаў бацька паходзіў са старажытнага, але зьбяднелага шляхецкага роду Рымвідаў-Міцкевічаў гербу Порай. Ён жыў і працаваў адвакатам у Навагрудку[1]. Маці паэта — Барбара з роду Маеўскіх гербу Стары Конь, дачка Матэвуша й Ганны з Арэшкаў[2].

Значнае месца ў нашай тэме займае праблема прызнаньня ў дваранстве Расейскай імпэрыі. Пасьля гвалтоўнай інкарпарацыі Вялікага Княства Літоўскага мясцовая шляхта павінна была прадставіць у губэрнскія дэпутацкія сходы свае доказы, дзе яны першапачаткова разглядаліся, пасьля чаго (у станоўчым выпадку) накіроўваліся ў Пецярбург, дзе Дэпартамэнт Герольдыі пры Сэнаце зацьвярджаў іх або не. Што казаць пра шарачковую шляхту, калі праз гэтую працэдуру былі вымушаныя прайсьці нават князі Радзівілы. Абіваньне парогаў, пісаніна просьбаў, — усё гэта патрабавала вялікіх грошай, а справа ўрэшце магла скончыцца адмоўна, напрыклад, як з Купалавым бацькам.

Асноўным матэрыялам на пачатку нашых пошукаў стала менавіта такая справа аб дваранстве Міцкевічаў[3].

Спэцыфіка гэтай крыніцы — наяўнасьць, як правіла, добра распрацаванай гензалёгіі, якую хадайнікі прад'яўлялі на разгляд і зацьвярджэньне. І справа Міцкевічаў у гэтым сэнсе не выключэньне.

У 1804 г. паэтаў бацька Мікалай Міцкевіч падаў прашэньне аб прызнаньні ў дваранстве. Доказы разглядаліся ў Гарадзенскім дваранскім дэпутацкім сходзе, і 29 лістапада мясцовая вывадовая камісія пастанавіла прызнаць Рымвід-Міцкевічаў гербу Порай за шляхту з аднясеньнем іх да 1-й часткі радаслоўнае кнігі (найбольш прэстыжнымі лічыліся 5-я (тытулаваныя рады) і 6-я (старажытныя рады) часткі). У дакумэнце гаварылася, што прадзед хадайнікаў Крыштаф, сын Валентыя, з родных мясьцін, г.зн. з Радунскай парафіі Лідзкага павету, перасяліўся на Навагрудчыну (напэўна, у канцы XVII ст.) і ажаніўся з Хрысьцінай Закрэўскай, за якой узяў пасаг — фальварак Вольцу (прададзены ў 1700 г.). Ягоны сын Ян меў ад Марыяны Лешчылоўскай пяцёх сыноў — Якуба, Адама, Іосіфа, Стэфана й Базыля, і валодаў каля 1739 г. двума пусткамі ў ваколіцы Прудох, якія выкупіў пазьней па заставе Францішак Верашчака. Пасьля сьмерці Яна сыны разам з маці прыкупілі ў Міхала Сасіновіча зямлю ў ваколіцы Гарбатовічах (1770) і плацілі за яе падатак, як сьведчыў квіт 1789 г. Якуб пакінуў сына Мікалая, каморніка менскага, які ад Барбары Маеўскай меў сыноў Францішка, Адама й Аляксандра (Казімір-Юры, народжаны 26 лютага 1804 г., адсутнічае, як і Антоні, народжаны 29 красавіка 1805 г.). Адам меў сыноў Фэліцыяна і Іпаліта. Іосіф, Стэфан і Базыль дзяцей не пакінулі. Яшчэ хадайнікі акурат стасаваліся з гензалёгіяй роду Міцкевічаў, зацьверджанай на Гарадзенскай кадэнцыі Галоўнага Трыбуналу ВКЛ 25 чэрвеня 1789 г. Шляхецтва таксама даказвалася сьведчаньнем шляхты й абываталяў Лідзкага павету (10 жніўня 1787 г.) у тым, што яны — нашчадкі Крыштафа Міцкевіча, які быў шляхціц.

Іншымі словамі, усё складалася ўдала. Толькі створаная ў Вільні для рэвізіі Гарадзенскага дваранскага дэпутацкага сходу камісія (дзе было выяўлена шмат фальсыфікацыяў і подкупаў службовых асоб) зноў зацікавілася справай нашых герояў. Іх папрасілі прад'явіць арыгінальныя дакумэнты на шляхецтва.

У 1836 г. Іпаліт Адамавіч Міцкевіч даслаў камісіі ажно 8 дакумэнтаў, а менавіта: 1) выпіс з кніг Галоўнага Трыбуналу ВКЛ з гензалёгіяй Міцкевічаў за 25 чэрвеня 1789 г.; 2) гензалягічная табліца роду, складзеная паводле таго ж выпісу; 3) прадажная Крыштафа й Хрысьціны Міцкевічаў Адаму Букрэю на маёнтак Вольца, 23 красавіка 1700 г.; 4) купная на маёнтак Гарбатовічы ад Сасіновіча Міцкевічам, дадзеная 20 красавіка 1770 г.; 5) квіт на выплату двух пустак у ваколіцы Прудох ад Верашчакі Яну Міцкевічу, 20 сакавіка 1739 г.; 6) застаўная ад Крыштафа й Хрысьціны Міцкевічаў на маёнтак Вольца-Букрэеўская, 1696 г.; 7) выпіс з кніг Галоўнага Трыбуналу ВКЛ са сьведчаньнем шляхты й абываталяў аб паходжаньні Міцкевічаў, 10 жніўня 1787 г.; 8) выпіс з рашэньня Наваградзкага земскага суда аб прызначэньні Мікалая Міцкевіча апекуном жонкі й дзяцей Адама Міцкевіча, 15 лютага 1802 г.

Камісія разгледзела гэтыя дакумэнты, але дастатковымі не палічыла і запатрабавала новых доказаў: перш за ўсё дакумэнтаў аб валоданьні маёнткамі з прыгоннымі і мэтрыкаў аб хрышчэньні. Невядома, зь якой прычыны, але Міцкевічы, напэўна, не пасьпелі выканаць гэтае патрабаваньне, і 10 сакавіка 1839 г. Дэпартамэнт Герольдыі ўказам скасаваў пастанову Гарадзенскага ДДС ад 29 лістапада 1804 г. і выключыў іх з дваранства.

Толькі ў жніўні 1841 г. Фэліцыян Адамавіч Міцкевіч здолеў даставіць дзьве мэтрыкі — на сябе й брата Іпаліта, а крыху пазьней — яшчэ тры дакумэнты — выпісы з кніг Гарадзенскага земскага суда: 1) прадажная Валентыя Грыгоравіча Міцкевіча Крыштафу Міцкевічу на маёнтак Міцькоўцы Гарадзенскага павету, 3 студзеня 1695 г.; 2) тастамант Яна Крыштофавіча Міцкевіча сынам Якубу, Адаму, Іосіфу, Стэфану й Базылю на маёнтак Міцькоўцы, 4 траўня 1768 г.; 3) прадажная Якуба й Адама Міцкевічаў брату Стэфану на свае спадчынныя часткі маёнтка Міцькоўцы, 5 чэрвеня 1784 г.

Гэтыя дакумэнты наводзяць на пытаньні. Напрыклад, чаму Валенты, бацька Крыштофа, паказаны на радаводзе сынам Станіслава, а ў дакумэнце — сынам Грыгора, прадае маёнтак свайму сыну? Дзе жыў Ян: у ваколіцы Прудох ці ў Міцькоўцах? Як Адам і Якуб у 1784 г. маглі прадаваць Стэфану Міцкевічу нешта ў Міцькоўцах, калі ўсе яны з 1770 г. жылі ў Гарбатовічах і больш нічым не валодалі? Выснова бачыцца толькі адна — бацька Адама скарыстаўся для зацьвярджэньня чужым радаводам. Той жа мэце служылі байкі пра перасяленьне й сваяцтва.

Справа Міцкевічаў цягнулася аж да 1859 г. і скончылася нічым. Праўда, чыноўнікі Менскага ДДС і Дэпартамэнту Герольдыі так і ня вынайшлі фальсыфікацыі. Проста ў Міцкевічаў не хапіла грошай, і, напэўна, не засталося нашчадкаў.

Так перад аўтарам паўстала нечаканая задача — стварыць новую гензалёгію роду Міцкевічаў. Матэрыялаў, якія проста ці ўскосна тычацца нашых Міцкевічаў (на Навагрудчыне хапала й іншых), аказалася болей, чым можна было меркаваць. На жаль, значна праясьніць радавод продкаў паэта яны не дапамаглі. Больш таго, сьледзтва зайшло ў чарговы тупік. Цяпер цяжка зразумець, з чаго ўсё пачалося, напэўна, з грошай, якія гарбатовіцкая шляхта пазычыла ў нашых герояў у 1784 г. Замест вярнуць доўг яна раптам адкрыла «мужыцкасьць» Міцкевічаў. На гэтую тэму была складзеная позва-памфлет са старанна расьпісанай гензалёгіяй, што зьявілася ў ліпені 1787 г. Магчыма, аўтарства належала гарадзенскаму ротмістру Францішку Янішэўскаму. Вось яе кароткі зьмест.

Янішэўскія валодалі вёскай Буцюнкі непадалёк ад Горадні ў накірунку да Індуры, дзе зьявіўся на сьвет пазашлюбны Хведар Міцкевіч. Каб гэты факт не перашкаджаў яму жыць спакойна, «ён зьехаў спачатку ў каралеўскую вёску Цьвіклі, а потым у Дзевятковічы, што на Слонімшчыне, дзе служыў паштовым». Нарэшце, ён пасяліўся ў ваколіцы Сьліжэвічы і меў сына Яна. Ян меў пяцёх сыноў і жыў нейкі час у вёсцы Пруды. «Пасьля яго сьмерці дзеці незаконна, бо не ад уладальніка, а ад арандатара Сасіновіча, набылі зямлю ў ваколіцы Гарбатовічах і перасяліліся туды». Таму Янішэўскі як былы законны ўладальнік выклікаў Міцкевіча ў суд і патрабаваў доказаў на шляхецтва.

Наступны жнівень прынес яшчэ большыя непрыемнасьці. 6 і 7 дня мясцовая шляхта (як мужчыны, так і жанчыны, агульнай колькасьцю 24 чалавекі), выбраўшы сабе за кіраўніка Тадэвуша Гарбатоўскага, «гарэлкай свае розумы затлуміўшы... па ўсіх ваколіцах хадзілі й езьдзілі, хлопамі Міцкевічаў называлі, а Падрэцкіх і Таралевічаў тры разы на дом Міцкевічаў насылалі». Напэўна, пасьля гэтых падзеяў і пасьпяшаўся Мікалай у Радунскую парафію па вядомае нам сьведчаньне тамтэйшае шляхты й абываталяў, якое датаванае 10 жніўня 1787 г., каб хоць нейкую паперу мець супраць абвінаваўцаў.

11 жніўня супрацьстаяньне дасягнула кульмінацыі: Рэмігіян Гарбатоўскі, узяўшы стрэльбу з узьведзеным курком, напаў на дом Міцкевічаў, сварыўся з Базылём і некалькі разоў парываўся забіць яго. Але Базыль з дапамогай дамоўнікаў здолеў абяззброіць нападніка. У той жа дзень Гарбатоўскі зноў заявіўся да нашых герояў, але ўжо з больш «зручнай для забойства стрэльбай і зь лепшым, што тычылася пораху й куль, зарадам», і так зьнянацку, што Базылю давялося не бараніцца, а хавацца, каб ратаваць сваё жыцьцё.

Справа абвінавачаньня Міцкевічаў у мужыцтве разглядалася ў Наваградзкім гродзкім судзе 17 сакавіка 1788 г. і скончылася для іх удала. Ніводзін з бакоў, а найперш абвінаваўцы, ніякіх аргумантаў не прад'явілі. Міцкевічы сьцьвярджалі, што адсутнасьць папераў ня робіць іх мужыкамі, тым больш што сёньня яны належаць да шляхецкага стану. Па законах Рэчы Паспалітай гэта забясьпечыла нашым героям несумненную перавагу, таму суд абараніў гонар Міцкевічаў і асудзіў абодва бакі на маўчаньне. Не зьявіўшыся, Янішэўскі быў завочна пакараны штрафам у 1045 злотых, спагнаць які Міцкевічам дазвалялася ва ўстаноўленым парадку.

Зразумела, што згаданы дэкрэт Мікалай Міцкевіч не прадставіў у якасьці доказу дваранства. Таксама цяжка пазбавіцца думкі, што скандал са шляхецтвам Міцкевічаў ня меў ніякіх падставаў. Аднак праясьніць сытуацыю могуць толькі новыя пошукі. Кола сваякоў Адама, якое аўтару ўдалося ўдакладніць, можна бачыць на малюнку.

Малы Адам, несумненна, чуў гэтую гісторыю ад сваіх блізкіх, і нешта зь яе скарыстаў для стварэньня «Пана Тадэвуша».

Аўтар, зразумела, і не марыў знайсьці мэтрыку аб хрышчэньні маці Адама. Барбара нарадзілася каля 1767 г., а адпаведных дакумэнтаў таго часу захавалася вельмі мала. Тым ня менш, вэрсію з жыдоўствам можна было б удакладніць ускосна — шляхам вывучэньня гензалёгіі роду Маеўскіх.

Па-першае, акрамя імя Барбара, яна называлася яшчэ Розай, як сьведчыць мэтрыка аб сьмерці[5]. Па-другое, бацька яе — Матэвуш Маеўскі, аканом маёнтку Чомбраўскага, нарадзіўся каля 1737 г. і меў, напэўна, таксама дачок Тэрэзу й Марыяну (апошняя, магчыма, стала адной з хросных Казіміра-Юрыя Міцкевіча), але зьвестак пра прыналежнасьць гэтага Матэвуша да роду Маеўскіх гербу Стары Конь пакуль ня знойдзена. Здаецца, Ст.Васьлеўскі проста скарыстаў найбольш вядомы на Навагрудчыне род, нават не паспрабаваўшы ўдакладніць паходжаньне зь яго Барбары. Наогул, пры значнай колькасьці прагледжаных аўтарам матэрыялаў, не выяўлена ніводнага дакумэнту, дзе б Маеўскія згаданага гербу кантактавалі з нашымі Міцкевічамі.

Цікавы факт ёсьць у кнізе З.Сухадольскага: дзеці Адама Міцкевіча ад Цэліны Шымаоўскай (Уладзіслаў-Іосіф) і ягонага сябры па Вільні Францішка Малеўскага ад Гелены Шымаоўскай (Марыя) у лепшых жыдоўскіх традыцыях, вынесеных з Эгіпту, пераждніліся паміж сабою[5].

На карысьць жыдоўскага паходжаньня паэтавай маці гаворыць і наступны факт. Пакуль паэт жыў на Беларусі зь яе традыцыямі талеранцыі і значным дамешкам жыдоўскае крыві, на ягоныя рысы проста не зьвярталі ўвагі. Калі ж ён апынуўся ў Расеі, дзе сыноў Ізраіля чуюць за вярсту, сябры прыдумалі яму ласкавую мянушку «Адам Адамович Вральман», што тлумачылася яго незвычайнай здольнасьцю да літаратурных імправізацый, як правіла, на французскай мове[6].

Як бачым, гензалёгія Адама Міцкевіча па матчынай лініі ня менш заблытаная, чым па бацькавай.




---

1 Górski K. Adam Mickiewicz. Warszawa, 1989. S.240.
2 Wasylewski St. Matka Adama Mickiewicza // Kuryer Literacko-Naukowy. 1933, Nr.52. S.8-9.
3 НАРБ. Ф.319. Воп.2. Спр.1991.
4 НАРБ. Ф.937. Воп.4. Спр.151. Аркуш 108.
5 Suchodolski Z. Panny Szymanowskie. Warszawa, 1986.
6 Сиротин А. Россия и славяне. СПб, 1913. С.69-70.

# "Упаўшыя на зямлю Бачаць хворае неба"

**Мае песьні табе дару. — Беласток, 1993; Міра Лукша. Замова. — Беласток, 1993; Ян Чыквін. Кругавая Чара. — Беласток, 1992; Ксэракс Беларускі. — Полацак, 1993; Надзея Артымовіч. Сэзон у белых пэйзажах. — Беласток, 1990.**

«Якая, зрэшты, розьніца, — хто гаворыць?» — пытаецца разам з Бэкетам Мішэль Фуко ў эсэ «Чым ёсьць аўтар?» і працягвае: «Праз гэтую абыякавасьць выяўляецца галоўны этычны прынцып сучаснага пісьменства».

Сапраўды, якая зрэшты розьніца: Ян Чыквін, Чжуан-Цзы, Ваця Браніславец, Ярамір Гладзік, Арфэй (?)? Надзея Артымовіч?

сплю ў шэрых сьнягах
гэта называецца спакойнай песьняй
бяззубы вечар здрадліва схапіў мяне за валосьсе
галодная поўнач у маскарадзе прысутнасьці
нібы тонкасьць — і ўсё далёка да
чыстага маўчаньня
зара разгубілася на ўроку ўласнага згараньня
— цёмна

(Н.Артымовіч)

Дзьве прыемныя нечаканасьці: беларускія кнігі набываюць дакладныя адрасы; беларуская паэзія іх губляе. Аднойчы ў Менску, пасьля доўгага восеньскага дня (араб яшчэ не забіты) заходзіш у кнігарню. Бярэш усё, на чым стаяць гэтыя знакі: Полацак, Беласток.

Гэта ўжо потым пачнецца аналітыка, нясьпешнае перагортваньне старонак, пяшчотнае вымаўленьне галосных. Ужо потым застанецца белая кніжка ў белых вершах пра бельскі сон у белых пэйзажах. А пакуль два «дакладныя адрасы» — Полацак і Беласток.

Полацак упэўнена прарываецца са сфэры геаграфіі ў сфэру культуры, ён нібыта цяжарны новым (нова-полацак), Беласток выкарыстоўвае ўвесь інструмэнтар культуры, каб застацца ў сфэры геаграфіі, ён нібы заклён, паўтарае: Гайнаўка, Саколка, Ляхі, гарод, дзічка... НоваПолацак знаходзіць месца ўсяму: крыўскім мэдытацыям Сяргея Шыдлоўскага й «сартраўскім» практыкаваньням Кастуся Гаманца, «заўсёдным нечаканасьцям» Людкі Сільновай і «халоднай жарсьці» Славаміра Адамовіча; у НоваПолацку каля бясконцага цьвінтара Валянціны Аксак п'е сваю кока-колу Юры Гумянюк. Беласток на файнай эўрапейскай паперы, у наркамаўскім правапісе, доўжыць сьмяротна-духмяны сон беларускае вёскі.

Але зь іншага шэрага сну — што завецца Менскам — як з-дарэньне паэзіі ўбачылася толькі гэтая кніжка: Сэзон у белых пэйзажах. Выдадзеная два гады таму, яна паступова перарасла, праявілася ў сьвядомасьці, павольна й неадступна. Таму ў Менску — які я люблю й сярод якога дванаццаць гадоў спрабую прачнуцца, — нібы замову, я прамаўляю:

... паэты паміраюць тады
калі ўсьміхаецца добры час для паперы

паэты паміраюць тады
калі знойдзены дакладныя адрасы

сытыя жэсты

паэты паміраюць тады
калі нараджаюцца чорныя лістапады...

(Н.Артымовіч)

І.Б.

# Жыцьцё ad marginem

**Віктар Казько, Выратуй і памілуй нас, чорны бусел. Аповесьці, апавяданьні, эсэ. — Менск, Мастацкая літаратура, 1993.**

Проза Віктара Казько прачытваецца як постскрыптум да ўсяе традыцыі беларускага вясковага эпасу.

Кніга, пра якую йдзе размова, складаецца зь дзьвюх аповесьцяў і двух апавяданьняў; чатыры эсэ маглі б быць незаўважанымі. Каноны клясычнае эстэтыкі амаль што вытрыманыя: месца дзеяньня — беларускае Палесьсе, час — «нашыя дні», галоўны герой — вясковае жыцьцё. Як і патрабуе трагедыя, галоўны герой памірае ў канцы апошняе дзеі. У першай аповесьці памірае Лазар Кагановіч, калгасны мэханізатар, які перад сьмерцю ўцяміў сябе Янкам Каганцом, напрыканцы другой хаваюць «Но Пасарана», што доўгія гады вёў вайну з Амэрыкай на адной з чыгуначных станцыяў Палесься. У апавяданьнях тэма сьмерці гучыць больш адцягнена, але й больш усеабдымна: у «Нахаве» сьмерцю патыхае Радзіма ("Радзіма — сьмерць!"), а ў «Сенакосе ў канцы красавіка» яе выпраменьвае чорны чарнобыльскі саркафаг.

Кніга Віктара Казько набывае сваю сапраўдную значнасьць на тле тых працэсаў, што адбываюцца ў апошнія гады ў традыцыйнай беларускай прозе. Гэта працэсы распаду. Традыцыйная проза была ў сваёй сутнасьці ўтапічная, ейнай мэтай і даляглядам была сацыяльная й культурная ўтопія беларускай вёскі — як адзінай сапраўднай крыніцы традыцыйнай маралі й беларушчыны ўвогуле. І хоць у лепшых сваіх тэкстах традыцыйная проза гэтай мэты дасягнула, — але за кошт стылістычна-жанравай аднастайнасьці й адрыву ад рэальнага жыцьця грамадзтва. На гэтым тле Віктар Казько ўсяго толькі *кажа праўду*. І праўда гэтая несуцяшальная: беларуская вёска — гэта жыцьцё на ўзбочыне.

Але (і гэта характэрна для сучаснай літаратуры ўвогуле) каб *усяго толькі распавесьці праўду*, Віктару Казько прыходзіцца мабілізаваць усе стылістычныя рэсурсы сучаснае прозы: ад абсурдысцкіх дыялёгаў і аўтарскага чорнага гумару да ўзьнёсла-трагічных мэдытацыяў і сымбалізму. У нечым стылістыка «Чорнага бусла» знаходзіць сябе ў эстэтыцы постмадэрну, але разыходзіцца зь ім хіба што ў самым галоўным, — для Віктара Казько жыцьцё — гэта жыцьцё ўсур'ёз.

Кніга Віктара Казько ёсьць разьвітаньнем — як з саладжавымі ўтопіямі, так і са стылістычным наівам — і, як кожнае разьвітаньне, яна дорыць сум і надзею:

«— Пасароміліся б, Пётр Пятровіч Пятроў, — гаворыць начальнік станцыі, — чалавек, я бачу, вы грамаце не чужы, чытайце. Вялікімі ж літарамі, большых не бывае, напісана: Нахаў. Нахаў наша станцыя называецца. І самі мы нахаўцы. Чытайце. Ці вам акуляры даць?

— Прабачце, — кажа малады чалавек. — Прабачце і дзякуй. Не дапамогуць тут вашы акуляры. Бачу Нахаў, а чытаю Нахер. У сэрцы гэта ў мяне ўжо так напісана... Навошта мне такая радзіма... — І заплакаў, і пайшоў. Сам пайшоў."

Фр.Эн.

# Кніжка з мапай

**Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.) / Под ред. А.Л.Хорошкевич. — Менск: Навука і тэхніка, 1993. — 223 с.**

Само па сабе «запрыгоньваньне» няшмат чаго раскрывае й выклікае хіба што зьвязаную з ранейшым выхаваньнем шкадобу да няшчаснага сялянства. Таму аўтар дасьледаваньня ўвесь час мусіць зьвяртацца да больш выразных і цэльных катэгорый. Кніжка правакуе дыскусію аб фэўдалізме. А для фэўдалізму найбольш істотная — гіерархічная лесьвіца землеўладальнікаў, г.зн. ці ёсьць такая гіерархія ўвогуле, ці ёсьць плата сэньёра за вайсковую службу зямлёю, ці ёсьць у васалаў сэньёра свае васалы. І далей — для шляхты характэрнае імкненьне прымацаваць сялянаў да зямлі. Запрыгоньваньне — як атрыбут інстытуту фэўдальнага права ўласнасьці на зямлю. Прычым атрыбут пажаданы, шырока растаўсюджаны, але не абсалютна абавязковы. Скандынавія практычна ня ведала прыгону...

Кніжка напісаная занадта сур'ёзна, каб быць апірышчам брутальнай схемы «прыгон-фэўдалізму» Барыса Грэкава. Але няма ў ёй і таго больш кантэкстуальнага падыходу, што пасьпела напрацаваць школа Аналаў, і што ўжо сёньня падаецца занадта сацыялягізаваным, дэпэрсаніфікаваным. Затое дзіва — Міхась Сьпірыдонаў, які застаўся прыхільнікам марксызму, у рэчышчы вузкасацыяльнага падыходу, не напісаў кліомэтрыю паводле формулы «людзі-колькасьць». Было б наадварот, каб ён горш ведаў крыніцы, каб у яго на кожную сацыяльную катэгорыю ня быў назапашаны зусім канкрэтны матэрыял з жывымі прыкладамі-аргумантамі. Ну, а ў тым, што гісторыяграфія Беларусі канца XX ст. не дасягнула «Западно-русеизма» Аляксандра Цьвікевіча (1929), ёсьць свае палітычныя й мэтадалягічныя прычыны. Хто сёньня, як А.Цьвікевіч, здольны разважаць пра эканоміку ў кантэксьце грамадзкае думкі?

Колькі заўвагаў на палёх. Беларусь у аўтара — гэта БССР у сэнсе палітыка-геаграфічным. Мы ведаем, праўда, што кніжка напісаная некалькі гадоў таму ў АН БССР. І ўсё ж, калі йсьці далей за фактаграфію, дык, зыходзячы з тэрыторыі сёньняшняе Беларусі, практычна нічога немагчыма растлумачыць. Затое мапа населеных пунктаў канца XVI ст. — унікальная — больш падрабязнай яшчэ не друкавалася. Цікавы экспэрымэнт з анамастыкай і тапанімікай — назовы даюцца ў «рускім» (старабеларускім) напісаньні, «г.зн. у адпаведнасьці з формаю напісаньня, якая пераважае ў крыніцах XVI ст.» Але наколькі такі прынцып можа быць унівэрсальны? Напрыклад, узьнікае казус з Радзівіламі: -дз- абвяшчаецца палянізмам і за нарматыўнае прымаецца напісаньне «Радивил». Між тым, разыходжаньне паміж кансэрватыўнай сыстэмай напісаньня, якая прыйшла са стараславяншчыны, і жывым беларускім вымаўленьнем высьветленае ўжо даўно (Ян Станкевіч. Беларуская вымова царкоўна-славянскага пісьма). За -д- у «Радивилах» хаваецца -дз-, зусім не спалянізаванае, што пацьвярджаюць і Аль-Кітабы (Ян Станкевіч. Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом). Праблемы ніякай няма, калі выкарыстоўваць беларускія назовы.

Ян Грэчыц.

# Савецкія інсэкты

**Jonas Augustauskas. In the World of Insects. — Vilnius: Mokslas Publishers, 1989. 216 s.**

Гэты фотаальбом, у якім зьмешчана 403 каляровыя фота, сёньня — адно з найболыш адметных выданьняў у вітрынах віленскіх кнігарняў. Кніга прысьвечаная дзесяці атрадам інсэктаў колішняга СССР, а менавіта, некаторым відам, што жывуць у цяжкадаступных раёнах колішняга савецка-іранскага і савецка-афганскага памежжа. Выданьне ўжо стала ўнікальным, бо ў недалёкай мінуласьці гэтыя раёны былі наглуха зачыненыя для не-савецкіх дасьледчыкаў, а сёньня ператварыліся ледзь не ў суцэльную паласу ўзброеных канфліктаў. Апрача гэтага, аўтар улучыў у кнігу некалькі відаў інсэктаў, што жывуць у эўрапейскай частцы былога Саюзу, у тым ліку ў Беларусі й Літве. Яну Аўгустоўскаму, біёлягу й фатографу, належыць больш за 50 публікацыяў у пэрыёдыцы, а таксама фотаальбомы «In the Forests of Lithuania» і «Природа Советского Союза». Трэці альбом, прысьвечаны інсэктам, падрыхтаваны ў колішнім СССР і надрукаваны ў колішняй Югаславіі.

Фундамэнталіст

# Лаўка ў старым садзе



Вучням старэйшых клясаў Віленскай беларускай гімназіі было прапанавана напісаць сачыненьне «Мой улюблёны верш з кнігі "Шарая гадзіна" Хведара Ніцкі». Некалькі тых сачыненьняў адабрала рэдакцыя «Нашай Нівы» для друкаваньня. Адно зь іх, з нашымі заўвагамі, устаўкамі й скарачэньнямі мы прапануем чытачам.

Сачыненьне гэтае цікавае ўжо тым, што гаворка ў ім ідзе пра верш Хведара Ніцкі "Лаўка ў старым садзе", які ніколі дагэтуль асобна нашай літаратурнай крытыкай не разглядаўся, а найчасьцей толькі згадваўся ў якасьці твора-прэлюдыі да вядомай Ніцкавай паэмы "Хвароба". Зрэшты, згадваецца "Лаўка ў старым садзе" і ў сумнавядомым (і ў пэўнай ступені анэгдатычна-дакладным) адказе супрацоўніка «Маладосьці» (літаратурна-мастацкі часопіс другой паловы XX ст.) Міколы Аўрамчыка, дзе М.Аўрамчык, папаракаючы паэта-пачаткоўца ў залішняй «літаратуршчыне», акрэсьлівае баладу "Лаўка ў старым садзе", як «далёкую ад сапраўднай паэзіі й жыцьця сумесь містычнай тарабаршчыны й грубай фізыялёгіі». «... Гэтай восеньню я натрапіла ў лесе на пакінуты гаспадарамі хутар. Прыземістая з угнутаю страхою хаціна, напаўразбураны хлеў, яміна ад пограба, закіданы размаітым хламаздам калодзеж. І стары, зарослы крапівою, палыном, дзядоўнікам сад. Дол абсыпаны залатоўкамі лісьця й здрабнелымі яблакамі-паданкамі. Саладкаваты пах гніеньня й такія недарэчныя тут хрызантэмы. А праз парадзелае гальлё саду чарнеюць змрочна густа-зялёныя лапіны ялінаў... І мне падумалася, што тут, мусібыць, самае сумнае месца на зямлі...»

Далей аўтарка сачыненьня разважае пра нетрываласьць усяго створанага чалавекам (хутар), якое, варта толькі чалавеку спыніць свае намаганьні, разбураецца пад наступам прыроды (лес). Узгадвае вядомыя ёй зь лекцыяў па даасізму выказваньні кшкалту: «ляво, заточанае надта востра, слугуе нядоўга».

«...Калі я прачытала баладу Хведара Ніцкі "Лаўка ў старым садзе", дык адразу прыгадала той самы хутар, дзе я пачувала сябе так сумна й непамысна. Падумалася, што менавіта там, у зьдзічэлым садзе сярод цёмных ялінаў, магла б існаваць такая незвычайная геаграфічная кропка, якая дазваньня зьмяняе жыцьцё чалавека й яго самога — варта толькі яму выпадкова патрапіць туды. Зьменьвае не таму, што з чалавекам здараецца нешта казачна-фантастычнае, а таму, што народжанае там адчуваньне суму й халоднай пустэчы быцьця — Ніцкава «нязводная хвароба» — не даюць ужо яму жыць па-ранейшаму...». У Ніцкі такі духоўны стан перадаецца радкамі: «Халодная ліне пустэча, праб'юцца парасткі млосьці, А скроні сьцісьне нязнаны ніколі дагэтуль боль».

Затым у сачыненьні прыводзіцца вядомы ў мэдыцыне факт, што самы звычайны працяглы галаўны боль можа да непазнавальнасьці зьмяніць характар чалавека й што сам Хведар Ніцка, як не аднаго разу пісалася, быў хворы на такі боль.

Аднак, правільна заўважае гімназістка, зь іншага боку, з практыкі вучэньняў Усходу вядома таксама, што ўнутранае «я» чалавека прабіваецца почасту праз параван несапраўднага існаваньня вельмі балюча і ўспрымаецца, як невытлумачальны з пункту гледжаньня мэдыцыны галаўны боль. І неадпусны гэты боль робіць хутчэйшай хаду чалавека на стромым шляху духоўнага дасканаленьня. У нейкім, вельмі звужаным, але дакладным сэнсе пацьверджаньне гэтаму мы знаходзім і ў словах са Старога Запавету: «чалавек створаны на пакуту, каб, падобна да іскраў, імкнуцца ўгару». Гэтым, уласна, выказваньнем гімназістка й заканчвае свае развагі пра верш "Лаўка ў старым садзе". Дадамо толькі, што ў школьным сачыненьні, між іншым, выказваецца цікавая думка пра другі радок баллады «Нябачна яе (лаўкі!) за высокай травой і густым лісьцём». На думку дзяўчыны, «высокая трава» й «густое лісьцё» сымбалізуе ўсё тое, што замінае нам бачыць «замшэлую лаўку» ісьціны. Адсюль жа вынікаюць такія размытыя й абагуленыя — нехарактэрныя ўвогуле для Ніцкі — эпітэты: «трава высокая», «лісьцё густое». Бо ўсялякае ўдакладненьне ў дадзеным выпадку (крапіва, палын, дзядоўнік, мох і да т.п.), насычаючы сад ілюзорнымі рэаліямі, толькі б зацьміла спасьціжэньне сэнсу ўлюбёнага верша аўтаркі сачыненьня.

# Багушэвіч і бяздомнасьць

Францішак Эн.

***Чым ёсьць гісторыя, — прыпамінам ці сном аб мінулым? Фэномэн памяці, як і фэномэн сну — адзін з самых загадкавых.***

***Новаэўрапейская гісторыя больш нагадвае індустрыю.***

***Разгалінаваная вытворчасьць дзеля «пажыраньня часу» новаэўрапейскім розумам, імкненьне сыстэматызаваць ды прадставіць у рацыянальнай форме маўклівыя помнікі, што засталіся нам як «мінулае».***

***У гэтай сыстэматызацыі розум выбудоўвае дыстанцыю бясьпекі, што маскіруе яго ўласную тэмпаральнасьць (часавасьць). З гэтае дыстанцыі сьвет бачыцца як аб'ект татальнае гісторыі, якой падлягае ўсё, апрача самога розуму. Татальная гісторыя ёсьць вытвараным прадуктам, і ў той жа час яна максымальна маскіруецца ў сваіх каранёх, матывацыях ды выніках, яна натуралізуецца — і прадстае перад намі як нешта сапраўднае, непарарыўнае й кумулятыўнае.***

***Мне даўно хацелся напісаць гісторыю Беларусі як «гісторыю розкасьцяў». Гісторыю, якая не абмяжоўвала б сябе той намэнклятурай гістарычных аб'ектаў, што прызнаныя сёньня «рэальнымі», а знаходзіла б сябе на скрыжаваньні — вэктараў, кірункаў, сілаў, рэалізаваных і нерэалізаваных памкненьняў, ідэяў... невымоўнага. Гісторыю, якая ня столькі запаўняе лакуны, колькі іх вытварае. Гісторыю, якая магла б быць «садам сьцежак, што разыходзіліся» — у няпэўнае — але й істотна-загадкавае мінулае.***

***Мне даўно хацелася...***

Мы знаходзім сябе ў прасторы традыцыі — глыбока самадастатковай, прытоена абяцальнай, нібыта роўнай самой сабе — і пакуль неназванай. Гэтая прастора патрабуе імя ўласнага, як жывая істота, — функцыяй якога ёсьць зьвязаньне ў адно сэмантыкі й этасу традыцыі, унівэрсальнасьці знаку (усё можа быць названым) і ўнікальнасьці ляндшафту (называецца тут і цяпер). Адкуль зьяўляецца гэтае імя? Як яно паўстае? Што за ім?

Было б недаравальнай наіўнасьцю палічыць яго чыста этна-топанімічнай зьявай, што вынікае з простае апазыцыі «свае-чужыя». Гэтая канстатацыя пазначае мяжу, яна адмяжоўвае культурную прастору, застаючыся абыякавай да яе зьместу. Але, каб такое адмежаваньне было магчымым, імя мусіць гарантаваць цэльнасьць культурнага ляндшафту, яно мусіць выклікаць пэўны вобраз сьвету, пэўны культурны міт. Яно мусіць мець дачыненьні з тымі сфэрамі парадку, што залягаюць «паміж ужо кадыфікаваным паглядам на рэчы й рэфлексіўнаю ведаю» (Мішэль Фуко). Самыя ж сфэры парадку ня ёсьць наяўна-прысутныя на тэкставых паверхнях, яны мусяць выяўляцца праз рэфлексію над традыцыяй, праз своеасаблівую «археалёгію» культурнае традыцыі.

Пры гэтым унутраны драматызм традыцыі выяўляецца ў пэўных паваротных момантах, пунктах у часе, у якіх складзены апрычорны лад культуры/сфэры парадку радыкальна мяняецца й пачынае задаваць іншую стратэгію разьвіцьця.

У пэўных традыцыях пры ўсім драматызме зьменаў захоўваецца вонкавая пераемнасьць, «пераварот» адбываецца недзе ў глыбінях і паступова прарастае ва ўзровень сэмантыкі праз складваньне іншых рэфлексіўных самахарактарыстык, іншае «мадэлі сьвету». Імя ўласнае застаецца й цэмэнтуе традыцыю падчас унутранай барацьбы й выцясьненьня старога — новым. Пакуль раптам не выяўляецца: надыйшла новая эпоха.

Беларуская гісторыя далёка стаіць ад гэтых эвалюцыйных ідыліяў. Угледаючыся ў традыцыю, мы знаходзім розныя імёны, і, часам здаецца, розныя цывілізацыі. Яны так трагічна адарваныя адна ад адной, так безнадзейна «затануліся» ў гісторыі, што выбудова адзінага «топасу», адзінае пэрспэктывы здаецца праблематычнай. Ці магчыма гэта ўвогуле? А калі магчыма, дык якой мусіць стацца культура, каб прыняць ды працягнуць *як свае* гэтыя імёны: КРЫЎЯ. ЛІТВА. БЕЛАРУСЬ...

Цяпер галоўнае: беларуская гісторыя XIX стагодзьдзя — гэта гісторыя бяздомнасьці. Усе стваральныя памкненьні, усе спробы выбудаваць пэўны кшталт жыцьця й культуры сканчаюцца нічым. Здаецца, само жыцьцё пішацца на абрыўках судовых вырокаў ды няўцямна-афіцыёзных цыркуляраў каляніяльнае адміністрацыі. Ці варта нагадваць, што беларуская гісторыя гэтага цьмянага стагодзьдзя ня можа ўсьвядамляць сябе гісторыяй дзяржавы альбо нацыі? Што ж адбывалася за фасадам?

Адзіны новаэўрапейскі сюжэт: выпрацоўка нацыі. «Ёсьць вялікая розьніца паміж сьветам складаных, пераплеценых міжсобку кшталтаў культуры і ўлады, — піша Эрнэст Гельнэр, — ды сьветам, які складаецца з адзінак, дакладна адмежаваных адна ад адной, адзінак, што вылучыліся паводле культурных прыкметаў, ганарацца сваёй культурнай адметнасьцю й намагаюцца ўсталяваць усярэдзіне культурную гамагеннасьць. Такія адзінкі, у якіх ідэя незалежнасьці зьвязаная зь ідэяй культуры, завуцца «нацыянальныя дзяржавы». Заўважым дзьве рэчы. Па-першае, пераход да нацыі — гэта заўсёдны разрыў, гвалтоўнае перарываньне «натуральнае» хады падзеяў. Але самыя нацыі паводзяць сябе такім чынам, як быццам яны ёсьць унівэрсальнаю, неабходнаю й адзіна-магчымаю формай існаваньня этнасаў. Яны выбудоўваюць *«міты паходжаньня»*, у якіх перапісваюць гісторыю на нацыянальную тэлеалёгію, абгрунтоўваючы сваё прота-існаваньне зь сівой мінуўшчыны: *міты psyche*, у якіх кадыфікуецца нацыянальны характар, «душа народа»; *міты парадку*, дзе знаходзяць свой адбітак сацыяльныя, палітычныя й мэтафізычныя стэрэатыпы: й міты будучыні, у якіх існаваньне нацыі праектуецца ў няпэўную будучыню. Разам гэта завецца *«нацыянальнай ідэнтычнасьцю»*. Па-другое, у адрозьненьне ад этнасаў, якія шмат у чым трымаюцца на крэўных сувязях, — нацыю фармуе культура. Нацыянальная культура, якая штучна ствараецца (вядома, карыстаючы з матэрыялу папярэдняе традыцыі) й да якой чалавек далучаецца як асоба, — г.зн. у сваёй асобнасьці...

У пэўным сэнсе, нацыі — *сэміятычныя ўтопіі* Новае Эўропы.

У адрозьненьне ад нацыянальнае тэалёгіі, што, выбудоўваючы беларускую традыцыю, паводзіць сябе так, быццам бы *знак «Беларусь»* ня мае моманту нараджэньня, а таксама лінгвістычных, культурна-генэалягічных ды мэтафізычных (?) абмежаваньняў, паспрабуем прасачыць, якім чынам, у пэўнай культурнай прасторы, на скрыжаваньні каланізацыйных дыскурсаў, гэты знак паўстае ў якасьці імя магчымае (!?) нацыі ды ўрэшце сам стаецца дыскурсам, культурным прывідам, адной з новаэўрапейскіх утопіяў... Вернемся да бяздомнасьці.

Вядома, гэтае слова — мэтафара. Але я не знаходжу нічога лепшага каб пазначыць суб'екта беларускай гісторыі дзевятнаццатага стагодзьдзя: *бяздомныя інтэлектуалы*. Па-за ўсімі гульнямі імпэрскае ўлады, па-за экспансіяй Новае Польшчы (Польшчы як патэнцыйнае нацыі), яны тварылі беларускую гісторыю на ўсёй прасторы зямное кулі, ад Лацінскае Амэрыкі й да Японіі. Беларуская гісторыя («чалавек у часе») разьлеглася па ўсім сьвеце... а найменей на Беларусі...

На Беларусі гэта — часы згасаньня «Літвы» як культурнага міту й культурнае саматоеснасьці. Літва была ўнікальным фэномэнам на мапе Ўсходняй Эўропы. Няпэўным і няўстойлівым, але й больш складаным. Яна дазваляла не падаўляць гістарычныя й культурныя альтэрнатывы, а ўлучаць іх у якасьці фрагмэнту, дэталі... Гісторыя Літвы была гісторыяй рознасьцяў. Натуральна, што ў часы новае Эўропы, — часы агрэсіўнае ўніфікацыі паводле «нацыянальных прыкметаў», такая мадэль была няжыцьцяздольная. Літва была штучна антаганізаваная і, па-сутнасьці, разламаная на «фрагмэнты».

Пасьля згасаньня Літвы бяздомнасьць сталася відавочнай. Зноў такі, я не знаходжу іншых словаў, каб пазначыць саматоеснасьць гэтых людзей — Чачота й Сыракомлі, Дуніна-Марцінкевіча й Лады-Заблоцкага, Баршчэўскага й Рыпінскага — як «бяздомныя інтэлектуалы».

Знак «Беларусь» паўстаў у якасьці адказу на тую дзікую бяздомнасьць, што навязала ім гісторыя.

Сапраўдны «аўтар» гэтага знаку — Францішак Багушэвіч.



Малюнак Дзяніса Раманюка

# НА МОЎНЫМ ФРОНЦЕ

Паводле матэрыялаў The European і The Times Higher, ласкава дасланых для «НН» спадаром Алесем Б. зь Менску



*Пачатковая школа, у якой дзеці навучаюцца па-гэйльску.*

## ШАТЛЯНДЫЯ

*(Крыс Гроўнэр)*

Той, каму сёньня даводзіцца падарожнічаць па Шатляндыі, адразу заўважае, што шмат у якіх мясьцінах назвам вуліцаў і населеных пунктаў вернутыя іх спрадвечныя гэйльскія формы. А яшчэ зусім нядаўна здавалася, што гэйльскі сьвет амаль адыйшоў у нябыт — памірала самабытная культура.

Сёньня апошнім фарпостам гэйльскае мовы ў Шатляндыі застаюцца Заходнія астравы. Мова ўсё яшчэ жыве ў некаторых частках Шатляндзкага Ўзгор'я, асабліва на поўнач ад Алапула, але й там яна паступова выцясьняецца ангельшчынай.

У 1891 годзе больш за 175 000 жыхароў Узгор'я гаварылі па-гэйльску. Цяпер, паводле перапісу 1991 году, ва ўсёй Шатляндыі засталося толькі каля 65 000 носьбітаў мовы.

За апошнія колькі гадоў актыўнасьць гэйльскамоўнае грамады і намаганьні захаваць сваю мову й культурную спадчыну значна ўзрасьлі.

Гэйльская мова сёньня ўжо шырока прызнаная ў якасьці нацыянальнае мовы Шатляндыі. Шмат дарослых англамоўных людзей адчуваюць неабходнасьць яе вывучэньня — і даюць сваім дзецям гэйльскую адукацыю.

Як кажа старая прыказка, «*Mura smachdar a'chlann mum gluin cha smnachdaich ris an uillin*» (Калі не глядзець за дзецьмі, пакуль яны ростам да калена, за імі ўжо ня ўгледзіш, калі яны будуць да локця). Калі трэба адрадзіць мову, дзеці мусяць выхоўвацца ў ёй і вучыцца на ёй у школе. Занапад мовы адбываўся да сярэдзіны 80-х гадоў, калі ўсяго 24 вучні наведвала гэйльскія сярэднія школы й 40 дзяцей хадзіла ў гэйльскія дзіцячыя садкі. Рух Шатляндзкіх Дзіцячых Садкоў узьнік у 1982 годзе: з таго часу было адчынена больш за 100 гэйльскіх садкоў.

Была аджыўленая й гэйльская адукацыйная палітыка, у выніку чаго сёньня каля 800 вучняў атрымвае адукацыю ў гэйльскіх сярэдніх школах.

Адзін з новаадчыненых гэйльскіх навучальных асяродкаў — школа ў Лінаклейце на востраве Бэнбэкула. Яна каштавала 8 мільёнаў фунтаў і была адчыненая ў 1988 годзе. Яна разьлічаная на ажыцьцяўленьне шырокага спэктру адукацыйных, культурных і сацыяльных праграмаў і забясьпечвае гэйльскамоўную сярэднюю адукацыю 5780 вучням з астравоў Бэрнэрэй, Паўночны Ўіст, Бэнбэкула, Паўдзённы Ўіст і Эрыскей. Яна таксама зьмяшчае музэй, тэатар і бібліятэку.

Мэта школы, паводле словаў аднаго з настаўнікаў, — сабраць разам усіх астраўлянаў — як гэйльскамоўных, гэтак і прыежджых, каталікоў і пратэстантаў. Прыежджых тут нямала — на Бэнбэкуле разьмешчаная вайсковая база.

Старыя шатляндцы часта вінавацяць у разбурэньні гэйльскае культуры англамоўных настаўнікаў, якія пачалі прыяжджаць на Ўзгор'е й астравы ў XIX стагодзьдзі. У сапраўднасьці ж ангельская мова заваявала кельцкія абшары праз гандаль і прамысловасьць.

Да XIII стагодзьдзя па-гэйльску гаварылі ва ўсёй Шатляндыі. З свайго пачатнага апірышча ў Лоўдыях (Lothians) ангельская мова пачала пашырацца праз заснаваньне гандлёвых мястэчак на ўсходнім узьбярэжжы ды праз англа-нармансі фэўдалізм. Адступленьне гэйльскае мовы на захад было спрычыненае разьвіцьцём рынку.

У выніку ангельская мова сталася моваю камэрцыі й дабрабыту. Шмат дзяцей аднамоўных шатляндцаў рабіліся двухмоўнымі, а пасьля шмат дзяцей двухмоўных бацькоў рабіліся аднамоўнымі ангельцамі. Дэградацыя ад двухмоўя да ангельскага аднамоўя адбылася таксама ў Валіі й Ірляндыі.

Аднак пераход да двухмоўнае адукацыі ў Валіі ў 1907 годзе і здабыцьцё Ірляндыяй незалежнасьці ў 1921 годзе забясьпечылі захаваньне гэтых кельцкіх моваў. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, валійская мова сталася ахвяраю англізацыі. Яна ня здолела пазбыцца комплексу сацыяльнае ніжэйшасьці, які адчуваюць яе носьбіты, або прыстасавацца да пратэстанцкіх каштоўнасьцяў XIX стагодзьдзя, бо ўсё кельцкае асацыявалася з каталіцызмам, бунтарствам і беднасьцю.

Новая хваля барацьбы за захаваньне гэйльскае мовы абудзіла ў людзях зацікаўленьне да сваёй гісторыі й традыцыяў. Паўсюдна ўзьнікаюць гісторыка-краязнаўчыя суполкі, якія прапагандуюць захаваньне культурнае спадчыны й навакольнага асяродзьдзя. Тэлевізія пачала часьцей рыхтаваць гэйльскія перадачы, і гэтак старадаўняя мова пачынае рабіцца часткаю сучаснага жыцьця.

Цьвярдыняю гэйльскае культуры застаюцца астравы Зьнешнія Гебрыды зь іх 29 500 жыхарамі. Аднак, каб захаваць мову, дзеці мусяць заставацца жыць на астравох. Гэта ўяўляе сабою немалую праблему, бо адзіныя мясцовыя заняткі на астравох — рыбалоўства й дробнае земляробства, і сёньняшняя моладзь часта мусіць зьяжджаць у пошуках працы на мацярык. Таму пэрспэктыўныя праекты захаваньня гэйльскае супольнасьці залежаць у першую чаргу ад стварэньня новых працоўных месцаў на астравох.

Comunn na Gaidhlih, Гэйльская Асацыяцыя з цэнтрам у Інвэрнэсе ставіць сваёй асноўнай задачай пашырэньне арэалу гэйльскае мовы ў Шатляндыі. Як здаецца, асноўная праблема цяпер, пры павелічэньні попыту на гэйльскамоўную адукацыю, — нястача кваліфікаваных настаўніцкіх кадраў.

## КОРНУЭЛ

*(Сайман Таргет)*

Нядаўна пабачыў сьвет першы за 40 гадоў навуковы слоўнік карнійскае мовы. Яго аўтар — навуковец, асноўны занятак якога — акіяналёгія.

Кен Джордж, які пачаў складаць слоўнік тры гады таму, атрымаўшы стыпэндыю ў 20 000 фунтаў ад Эўрапейскае Камісіі, — выкладчык акіянічных навукаў у Плімуцкім Унівэрсытэце. Гэта значыць, што слоўнік складаўся падчас адпачынкаў ад выкладчыцкае працы. Аднак, д-ра Джорджа нельга назваць лексыкографам-дылетантам — ён абараніў другі дыплём у галіне карнійскае гістарычнае фаналёгіі ў Заходнебрэтонскім Унівэрсытэце.

Папярэдні слоўнік быў выдадзены ў 1955 годзе Робэртам Нэнсам, энтузыястам карнійскае мовы, які шмат зрабіў для таго, каб адрадзіць мову, што памерла каля 1800 году. Слоўнік д-ра Джорджа носіць больш навуковы характар: «Адна з праблемаў папярэдняга слоўніка палягае ў тым, што не заўсёды ясна ці пэўнае слова сапраўды было ўзятае з традыцыйных карнійскіх пісьмовых тэкстаў, ці яго прыдумаў сам Нэнс — або каб запоўніць прагал у лексыцы, або каб апісаць новае паняцьце, што не йснавала ў старыя часы».

Гэты багата анатаваны даведнік, які зьмяшчае словы, узятыя пераважна зь сярэднявечных містэрыяў, імкнецца падаць дакладнае вымаўленьне й сучасны фанэтычны правапіс. Вядома ж, гэта складае немалую мэтадалягічную праблему. Як заўважае д-р Джордж, «тады, у XVIII стагодзьдзі не было ніякіх гукапісных прыладаў».

На шчасьце, пэўнай падмогаю можа быць брэтонская мова, на якой усё яшчэ гавораць у Брэтані й якая блізкая да карнійскай мовы: «Гэтыя мовы падобныя адна да адной як гішпанская й партугальская. Іх нельга лічыць ўзаемна зразумелымі, аднак некалі яны былі часткаю тае самае мовы, на якой гаварылі брытанскія кельты за часы Рымскае Імпэрыі».

У якасьці камэнтара д-р Джордж зазначае, што ягоны слоўнік мае канкрэтную практычную мэту: «Гэта не гістарычны слоўнік. Ён задуманы каб забясьпечыць базу для сучаснае жывое мовы, памагчы людзям ужываць карнійскую мову ў штодзённым жыцьці». З гэтае прычыны ён улучае ў слоўнік «прыдуманыя» словы для рэчаў, якіх не йснавала ў XVII стагодзьдзі, кладучы ў іх аснову традыцыйныя карнійскія карані. Тэлевізія, прыкладам, завецца словам «pellwolok» — спалучэньне «pell» (далёкі) і «wolok» (бачаньне).

Ахапляючы каля 9000 словаў, гэты слоўнік значна меншы за слоўнік валійскае мовы, таксама блізкай сваячкі карнійскае. Першы том Валійскага Слоўніка выйшаў у 1950 годзе, пазьней быў апублікаваны яшчэ 41 том, праца даведзена ўжо да літары «Р».

Пры ўсіх магчымых недахопах слоўніка, карнійскамоўная грамада, якая складае ня больш за 150 чалавек, з прыхільнасьцю сустрэла яго зьяўленьне. Ўэла Браўн, генэральны сакратар Камітэту Карнійскае Мовы, адзначыла: «Мы вельмі задаволеныя гэтым слоўнікам. Гэта навуковая, грунтоўная й аўтарытэтная праца».

Аднак некаторыя актывісты карнійскае мовы крытычна ставяцца да працы д-ра Джорджа. Адзначаючы выразны падзел паміж трыма пэрыядамі карнійскае мовы за тысячу гадоў яе йснаваньня, Ян Гендал з супернае Рады Карнійскае Мовы, кажа: «Калі можна сабе ўявіць мяшанку з англа-саксонскіх гаворак, мовы Чосэра й амэрыканскага слэнгу і прыстасаваць да яе сваю правапісную сыстэму, дык якраз і атрымаецца тое, што зрабіў Кен Джордж».

## БРЭТАНЬ

*(Рожэ Фаліго)*

Упершыню ў гісторыі Францускае Рэспублікі міністар адукацыі наважыўся сказаць нешта ўхвальнае пра мовы этнічных меншасьцяў Францыі. «Самая пара цяпер працаваць разам дзеля захаваньня скарбаў нашае супольнае спадчыны, выходзіць на вуліцы й гаварыць па-басконску, па-брэтонску, па-аксітанску або па-эльзаску».

Што праўда, родная мова самога Франсуа Бэйру, міністра ў новым галісцкім кабінэце, — аксітанская, ён паходзіць з Паўдзённае Францыі. На сустрэчы з прадстаўнікамі карсыканскіх, баскосніх і брэтонскіх пачатковых школаў гэтым летам ён прызнаў, што цэнтралізаваная сыстэма адукацыі, хочам мы таго або не, ніколі не пагодзіцца інтэграваць у сябе іншыя школы, дзе ўсе прадметы выкладаюцца на мове меншасьці.

Разам з тым ён даў зразумець, што праблему можна вырашыць праз асацыяцыйнае пагадненьне паміж прыватнымі школамі й дзяржаваю. «Я быў на той сустрэчы, — сказаў Тангі Луран, упаўнаважаны брэтонскіх школаў-«дыванаў». — Гэта быў рашучы паварот на 180 градусаў, упершыню міністар адукацыі згадзіўся сустрэцца з намі ад часу заснаваньня нашых школак у 1977 годзе».

«Дыван» па-брэтонску значыць «зародак». Ідэя закладаньня брэтонскамоўных дзіцячых садкоў і пачатковых школак пачала прыжывацца ў сярэдзіне 70-ых гадоў. Як прыватная школьная сыстэма, фінансаваная толькі сем'ямі ды няспынным публічным зборам сродкаў яна напачатку зазнала пэдагагічныя ўплывы шатляндца А.С.Ніла й ягонае школы ў Самэрхіле.

Аднак зь цягам часу выкладчыкі й прыхільнікі «дыванаў» пачалі імкнуцца да поўнае інтэграцыі ў францускай адукацыйнай сыстэме, захоўваючы пры гэтым сваю моўную незалежнасьць. У выніку гэтага школкі-«дываны» мусілі прыстасавацца да францускае *éducation nationale* і ўвесьці францускія лекцыі, пры гэтым бальшыня прадметаў налалей выкладалася па-брэтонску. У 80-я гады частка настаўнікаў пачала атрымваць субсыдыі ад францускае дзяржавы, і ўзьніклі нават надзеі, што вучні змогуць працягваць навуку ў роднай мове аж да матуральнага іспыту. Аднак пакуль што, паводле францускіх законаў, немагчыма здаваць гэты іспыт на нейкай іншай мове апроч францускае.

Бэйру ведае, што хоць ён і можа прыняць важныя рашэньні, аднак яны нічога не дадуць, калі іх не падтрымае міністэрская бюракратыя.

Тымчасам Бэрнар Грасэ, новы прэфэкт Брэтані, публічна абвесьціў, што трыма прыярытэтамі рэгіёну мусяць стаць барацьба зь беспрацоўем, ахова навакольнага асяродзьдзя й падтрымка брэтонскае культуры, найперш і найбольш — брэтонскае мовы. Гэтая новая ініцыятыва надзвычай своечасовая. Школы-«дываны» пасьпяхова разьвіваюцца й прынялі сёлета больш за тысячу новых вучняў. Да таго ж у Брэсьце быў адчынены першы брэтонскі калеж, які дае сярэднюю адукацыю.

Аднак брэтонскае школьніцтва мае цяжкія фінансавыя праблемы, яно вінаватае дзяржаўнай сыстэме сацыяльнага страхаваньня 4 мільёны франкаў. Фактычна, яно стаіць на мяжы

# Зьбігнеў Хэрбэрт

## КАЛЯ БРАМЫ ДАЛІНЫ

Пасьля зарападу
на выжарышчы голым
пазьбіраліся ўсе пад ахову анёлаў

з ацалелага ўзгорка
ахапіць вокам можна
увесь статак двуногаў рыклівы трывожны

папраўдзе іх няшмат
з улікам нават тых
хто прыйдзе з кронік казак і жыццяпісаў сьвятых

але досыць развагаў
пераняcемся паглядам
да гарлавіны даліны
адкуль чуецца крык

пасьля сьвісту выбуху
пасьля сьвісту цішы
гэты голас трымціць бы ў крыніцы жывая вада

як мы высьвятляем
гэта крык матак ад якіх адбіраюць дзяцей
бо ўратоўваюць нас
тлумачаць нам
будуць паасобна

анёлы суворыя вартавыя
і трэба адзначыць занятак у іх ня зь лёгкіх

яна просіць
— схавай дзіця ў воку
ў далоні ў плячох
заўсёды былі мы разам
ня можаш мне адмовіць цяпер
калі памерла й прагну тваёй чуласьці

Старшы анёл
з усьмехам уладжвае непаразуменьне

бабуля нясе
трупік канаркі
(усе звяры й птушкі загінулі трохі раней)
— была такая мілая — мовіць з плачам —
што ні скажаш
усё разумела нібы чалавек
голас яе тоне ў агульным вэрхале

нават дрывасек
якога цяжка ў чымсь западозрыць
стары згорблены селянін
прыціскае да грудзей сякеру
— праз усё жыццё была мая
зарабляў ёю на хлеб там
зараблю й тут
ніхто ня мае права
— кажа
— не аддам

тыя хто як здаецца
бяз болю паддаліся загаду
ідуць з апушчанымі галовамі ў знак пакоры
але ў сьціснутых кулаках хаваюць
шматкі лістоў стужкі і пасмачкі валасоў
і фотаздымкі
якія спадзяюцца наіўна
ня будуць у іх адабраныя

вось так яны выглядаюць
на момант
перад апошнім падзелам
на тых хто скрыгоча зубамі
і тых хто расьпявае псальмы

*1957*

З польскае пераклаў Алег Мінкін



банкруцтва, бо, як гэта ні парадаксальна, дзяржава адной рукою забірае тыя сродкі, якія выдала другою ў выглядзе субсыдыяў.

Некаторыя абаронцы брэтонскае мовы разглядаюць гэта як наўмысную хітрасьць былога міністра-сацыяліста Жака Лянга. Іншыя ж лічаць, што віною тут усяго толькі няўмелае адміністраваньне.

У гэтай драматычнай сытуацыі Брэтонскамоўныя Бацькоўскія Камітэты выступілі з заклікам. Ён дапамог сабраць значную суму ў 2 мільёны франкаў ад прыватных асобаў, якім рупіць гэты плян «глябальнага ўратаваньня мовы».

Аднак школы-«дываны» застаюцца ўсяго толькі кропляю ў моры. Існуюць яшчэ й іншыя сыстэмы, прыкладам, двухмоўныя клясы як у публічных, гэтак і прыватных каталіцкіх школах, якія налічваюць агулам 241 тысячаў вучняў. Яны, аднак, сутыкаюцца зь іншай праблемай. Брэтонскія дыплёмы пакуль што не прызнаюцца ўладамі. На думку францускамоўных брэтонцаў, прыкладам Фанша Брудыка, усе гэтыя экспэрымэнты выдатныя, але дарэмныя.

Фанш Брудык кірує дзяржаўнымі брэтонскамоўнымі тэлепраграмамі і нядаўна абараніў у Брэсцкім Унівэрсытэце дысэртацыю аб разьвіцьці брэтонскае мовы. Ягоныя дасьледаваньні паказалі, што на пачатку мінулага стагодзьдзя 80% насельніцтва гаварыла на гэтай кельцкай мове. Сёньня гэтая лічба ўпала да 10% — гэта значыць, 250 тысячаў чалавек, якія ў штодзённым жыцьці гавораць па-брэтонску. Гэтыя людзі жывуць у Ніжняй Брэтані, часьцей за ўсё на беразе мора.

Аднак яшчэ 850 тысячаў разумеюць або чытаюць, ня могучы свабодна гаварыць на мове. Паводле Брудыка, найбольшы пералом наступіў пасьля 1844 году, калі людзі былі вымушаныя гаварыць па-француску, шукаючы працы ў гарадох, пакідаючы брэтонскія вёскі. Ягоныя высновы разьвеялі шмат ілюзіяў: сьмерць брэтонскае мовы, страшная страта ў культуры, непазьбежная.

Іншы брэтонец, Рожэ Лякюэнан зь Ляньёну ў Ніжняй Брэтані, выказвае больш аптымізму: «Матэматычна Брудык мае рацыю. да 2020 году ніхто ня будзе гаварыць па-брэтонску. Але ж не забывайцеся, што небясьпека пагражае й францускай мове — яе можа выцясьніць ангельская. У адраджэньні мовы істотную ролю можа адыграць палітычная воля. Але й гэта не гарантыя посьпеху: паглядзіце на Ірляндыю. Ірляндзкая мова — афіцыйная, хоць на ёй гаворыць невялікая меншасьць. Калі я быў хлопчыкам, да вайны, усе вакол мяне гаварылі па-брэтонску. Цяпер жа дзеці, каб навучыцца мовы, мусяць хадзіць у школу. Баюся, што ў будучыні Брэтані пагражае дзіўная сытуацыя: гаварыць на мове будуць толькі інтэлектуалы, а ня простыя людзі, як гэта было раней».

Пераклад BKZ





© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# ALIEN

Тадэвуш Камэндант

1. Фільмаў жахаў я бачыў у жыцьці нямала, але сапраўды страшна ў кіно мне было толькі раз — на фільме *Alien* Рыдлі Скота (ён ішоў на нашых экранах пад назовам «Чужы — восьмы пасажыр Ностромо»). Гэта была яскравая праекцыя кашмару — сустрэча зь нечым зусім невядомым і радыкальна іншым. Гэтае «нешта» нічым не нагадвала чаго б там ні было зямнога і разам з тым пагражала зямлянам: пранікшы ў іх, нібы інфэкцыя, яно расло ў іх у грудзях і прабівалася навонкі, зьнішчаючы сваіх міжвольных гадавальнікаў.

Сіла гэтага фільму хавалася ня столькі ў яго карцінах і спэцыяльных эфэктах, як у простай праўдзе, у якой мы рэдка маем адвагу прызнацца і таму яе хаваем — бо яна нам чужая — ад саміх сябе ў найцямнейшых закутках душы. А гучыць гэтая фамільярная й варожая праўда так: Чужога мы гадуем у сабе — у сваім нутры. Калі ён вырвецца навонкі, нам пагражае разбурэньне.

Мяне ня дзівіць, што гэты фільм так падабаўся праф. Марыі Янён. Бо ж ён паўтараў, у непазнавальнай алегорыі, старое рамантычнае адкрыцьцё: чужы — гэта праекцыя нашых страхаў. Аднак у ім інакш, чым у аповесьці пра Франкенштэйна, Насфэрата або пра кабінэт доктара Калігары расстаўленія акцэнты. Тыя гісторыі былі — геніяльным — прадказаньнем чагосьці, што яшчэ мае прыйсьці, і таму яны не парушалі асноваў рэчаіснасьці й законаў здаровага розуму; яны датычылі псыхікі. Сёньня ж фантазмы сталіся рэальнасьцю, а чужы зрабіўся больш рэчаісны за саміх нас, ягоных тварцоў і карміцеляў. Тыя гісторыі адбываліся ў кабінэце доктара Фройда; у адрозьненьне ад гэтага *Alien* нахабна эксплёатуе ніцшэанскую сытуацыю «сьмерці Бога», зводзячы яе да ўзроўню аповесьці пра вучня чарнакніжніка: памёр Бог, зьведзены да ролі чарнакніжніка, памёр чарнакніжнік, нішто не стрымае звар'яцелае мятлы, вучань (Бога? чарнакніжніка?) таксама мусіць памерці.



2. На Манмартры стаіць адна з сапраўдных цэркваў у Парыжы, бо яна не была разбураная падчас Рэвалюцыі, было занадта далёка. Калі ўваходзіш у яе, адчуваеш, што можаш намацаць час: ён хаваецца ў заваротах высокіх каленаў і прымушае паверыць, што простыя лініі спатыкаюцца ў бясконцасьці. Абсурдная геамэтрычная праўда мае эмпірычнае пацьверджаньне: колішняе простае сталася крывым, хоць праміне яшчэ шмат часу, перш чым усё зьліецца ў адзіным пункце зьнішчэньня.

Калі Манмартар стаўся кварталам мастакоў, што пілі абсэнт і малявалі голых жанчын, было пастаноўлена збудаваць там царкву, якая сваімі памерамі перасягне ўсе астатнія цэрквы. Так узьнікла базыліка Сакрэ-Кёр, якая архітэктурна нагадвае варшаўскую культавую пабудову пры Тавары, а кубатураю — дакладна Палац Культуры й Навукі. Гэты цукровы пернік пануе сёньня над усім Парыжам, але мастакоў на Манмартры ўжо даўно няма. Парыж — гэта не Чыкага й не варшаўская Прага; у Парыжы я баяўся толькі адзін раз — уночы, у навакольлі базылікі Сэрца Ісусавага, калі я йшоў па вуліцы крыху падобна, як ходзяць у клясычных вэстэрнах, і раптам усьведаміў сабе, што ня бачу ніводнае жанчыны, тут адныя мужчыны, іх шмат, і ў дадатак да ўсяго сярод іх няма ніводнага белага.

Чым больш няма нас, тым больш рэальны чужы. Гэты закон спраўджаецца паўсюдна. Рэальна: чым менш французаў у ваколіцах Манмартру, тым болей там арабаў, неграў і палякаў. Уяўна: з таго часу, як Манмартар пакінулі мастакі, там можа быць хто заўгодна. Сымбалічна: Манмартар гэта Гара Пакутнікаў, хай ёю займаюцца іншыя.

Чаму мы хочам паўтараць выпадак з Манмартрам? Які Alien выядае сёньня нашыя вантробы?

*«Twórczość», 9'1993.*

# ЧУЖЫ

Сяргей Паўлоўскі

Ёсьць такія творы, якія «заводзяць». Аўтар пачынае табе нешта тлумачыць, ты слухаеш і раптам — дайшло! — адштурхоўваеш яго, маўляў, пачакай, я сам. Гэтак было з эсэ Тадэвуша Камэнданта *Alien*. Першыя два разьдзелы кожнага навядуць на сваё. Далей у Камэнданта — ягонае, складаныя дачыненьні касьцёла й «Салідарнасьці» ў цяперашняй Польшчы. А ў мяне — сваё. Дакладней, чужое. Я думаю пра тое — хто гэты чужы, якога мы гадуем у сабе?

Магчыма, гэта д'ябал, — і тады спатрэбіцца *Egzorcysta*? А можа, — талент? Муза? Музу, бывае, нялёгка адрозьніць ад д'ябла. Я маю на ўвазе ня тое натхненьне, якім распараджаецца творца, а тую падсьведамасьць, якая распараджаецца творцам сама. А можа быць, гэта AIDS?.. У кожным разе гутарка йдзе пра чужога, які ў нас, не залежыць ад нас і ўплывае на нас — аж да разбурэньня, а мы, калі й можам уплываць на яго, дык толькі праз радыкальнае дзеяньне, скіраванае на сябе — зноў жа праз разбурэньне ці перабудову.

Я наўмысна ўвесь час ужываю «мы», бо мяне цікавіць сфэра нацыянальнае сьведамасьці, мэнталітэт...

Я думаю пра «чужога» ў нацыі. Спакусьліва разгледзець яго ў жыдзе. *Alien*-жыд у абсалютных катэгорыях — і талент, і д'ябал. Ён даў гэтай нацыі сваю крою, пасьля чаго два простыя пачуцьці — любоў і нянавісьць — расшчапіліся й перамяшаліся для яе ў куламесу ўнутраных супярэчнасьцяў, з чаго ўзьнік фэномэн багатай натуры. Усё сур'ёзнае й адназначнаеператварылася ў адноснае й сумлеўнае. Жыд спараліжаваў нашую волю — утрымліваючы ад рашучых заваёваў, ён вучыў распазнаваць у іх гэткую ж рашучую пагібель. Урэшце, жыд і быў выгнаны як д'ябал. Але беларуская нацыя ўжо ніколі ня будзе такой, якой была ў XIX ці нават у сярэдзіне нашага стагодзьдзя.

Другі *Alien* — расеец. Ён не выглядае ані на талент, ані на д'ябла для нас. Ён не натхняў нас і не купляў нашую душу. Ён хутчэй AIDS, які парушае імунную сыстэму, і тады паступова разбураецца традыцыйная мараль. Ён ніколі не заяўляў пра сябе як пра чужога, але, пры ўсіх дэклярацыях братэрства й адзінства, на паспалітым узроўні мы ніколі не называлі яго сваім. На «свайго» ці «чужога» ён адгукаецца толькі ў літаратуры, у газэтах, з трыбуны, але не ў крыві. Бо ў нашай крыві ён — іншародная цела.

Паляні, на першы погляд, — такія ж, як і расейцы. Але, у адрозьненьне ад расейшчыны, беларус нібы прышчэплены ад пальшчызны, і заўсёды сьведама аддзяляў сябе ад яе. Таму палянізацыйныя працэсы — якія б шырокія яны ні былі — бачныя й прадказальныя. Гэта справа палітыкі, а ня містыкі.

Балтызм беларусаў — *Alien* найбольш таямнічы, бо найбольш глыбокі. Нельга нават з пэўнасьцю сказаць, што — мы гадуем яго ў сабе. Зь іншага боку, нейкія непрадказальныя й «нематываваныя» зрухі, якія заўтра могуць выявіцца ў нашым народзе — зусім магчыма, выкліча менавіта гэты *Alien*...

А можа, чужы — Сам? Чорны — Сам? Беларушчына — не д'ябальшчына, але часам яна ўсяляецца ў дэманічныя натуры. І тады — выходзячы вонкі — абяртаецца разбурэньнем. Цяперашні беларускі рух ведае не аднаго такога індывідуала-дэструктара. Гэты *Alien* распазнаецца паводле асноўнага матыву сваіх учынкаў — нянавісьці. Славуты раман Альбэра Камю «Чужаніца», які — і пра тое ж, сканчаецца словамі апошняга жаданьня галоўнага героя: «І каб добра ўсё завяршыць, каб адчуць сябе меней самотным, мне заставалася пажадаць, каб у дзень майго пакараньня было шмат гледачоў і каб яны сустрэлі мяне ровам нянавісьці».

Равець, роў, ровам...

«Чужы ў сабе».

Нібыта стаіш каля рова, у якога няма дна. Што гэта — тэма? навука, мэтад, інтрыга? Ці, можа, аблуда? Але ж менавіта гэтыя два словы складаюць зьмест вылучэньня (ці там адраджэньня) нацыі. І таму яны, і таму *Alien* — непазьбежны. Як «дзяржаўнасьць мовы», што «непазьбежная як сьмерць».

Замест Манмартру мне ўпарта мроіцца роў.



# Што пішуць?

## Пра Б.

*Севярын Квяткоўскі зь Менску*

I.

Бадай, кожны зь людзей рана ці позна спрабуе адказаць сабе на пытаньне пра сэнс жыцьця. І кожны вырашае яго па-свойму. Альбо не вырашае. Але далёка ня ўсе задумваюцца аб тым, што ёсьць жыцьцёвым чынам.

Я лічу, што Б. ёсьць жыцьцёвы чын.

Б. — чыньнік руху кожнай з частак рэчаіснасьці, якая завецца *ego*.

Зьяўленьне Б. — невытлумачальнае. Немагчыма сказаць, што ён вынікае з такіх і такіх фактараў. Б. можа быць выпадковы, і, наадварот, людзі самі могуць (здольныя) дасягаць Б. Для такіх людзей Б. ёсьць усьвядомлены жыцьцёвы чын.

Мне могуць зазначыць, што каб вытлумачыць Б., трэба адказаць на пытаньне: «Што ёсьць чын Б.-овы?» Але гэта пытаньне кшталту: «Навошта рэчаіснасьць?»

Калі я пазбаўляюся ад падвойнага ўспрыманьня свайго існаваньня: ад сябе з успамінаў, ад сябе з гледзішча іншых людзей, я застаюся сам-насам са сваім *ego*.

Тады магчымы Б.

Але не забудзьма: Б. — гэта чын, гэта рух. Рух ёсьць *ratio* жыцьця. Рух ёсьць першаісная ўмова жыцьця. Хочаш - ня хочаш, гэта аб'ектыўнае.

Натура чалавека шмат у чым кансэрватыўная. часта чалавек не жадае рушыць наперад, яму хочацца «спыніцца на дасягнутым». Тады — або сьмерць (у шырокім сэнсе гэтага слова), альбо вымушаны (аб'ектыўны) рух.

Б. — антонім Вымушанага руху.

II.

Беларускае адраджэньне й Б. — неад'емныя адно ад аднога.

Натуральна, любое адраджэньне неад'емнае ад Б. Але беларускае адраджэньне ўнікальнае. Нават у параўнаньні з суседнімі найбольш блізкімі па духу народамі.

Доля чыстага Б. ва Украінскім і Літоўскім адраджэньнях вельмі вялікая. Але, пры наяўнасьці такой Зах. Украіны і такой непадобнай на іншыя літоўскай мовы, яны — адраджэньні — не сягаюць планкі беларускага чыстага Б.

Калі адкінуць у беларускім руху мястачковы нацыяналізм зь вялікадзяржаўнымі дэкарацыямі, то застаецца Б.

Наш Б.

III.

Б. вечны — гэта трывіяльна.

Наш Б. ня будзе вечны.

Гэта добра.

Нас ня будзе, калі зьнікне гэты Б.

І гэта добра.

## Пра экумэнізм

*Сяргей Шыдлоўскі з Наваполацку*

У рэчышчы беларускай культуры існуюць праваслаўныя й каталіцкія традыцыі, але беларушчына — гэта не мэханічная сума праваслаўнай ды каталіцкай культур.

Беларусам уласьціва хутчэй пачуцьцё надканфэсійнасьці, чымся талеранцыі. Гэта вынік слабасьці канфэсійнага патрыятызму ў асяродку нацыянальнай інтэлігенцыі. І каталіцкая, і праваслаўная царква хутчэй заміналі ў нас, чымся спрыялі фармаваньню ўласна нацыянальнага патрыятызму. Аніводная зь іх ня стала роднай маткай беларускай ідэі, і апошняй мулка і ў межах праваслаўнай і ў межах каталіцкай артадоксіі. Беларуская душа даўно ўжо лунае арлом небапарным па-над гатычна-бізантыйскімі мурамі, што стагодзьдзямі зацята бароняцца на нашай зямлі ў аблозе Вечнасьці... Гэтая небапарнасьць ня ёсьць адзнакай нашае нехрысьціянскасьці (паганскасьці), — проста беларусы ведаюць розьніцу паміж вернасьцю царкве і вернасьцю Богу.

Хоць у адрозьненьне ад суседніх краін царкоўныя структуры ў нас не гуртуюць, а разьдзяляюць народ, беларускаму руху ўсё ж ня варта быць атэістычным або варожым ці абыякавым да Веры. І ў беларуса-каталіка, і ў праваслаўнага — адзіны Бог і агульная мова, — гэта й ёсьць Беларуская ідэя, ідэя надканфэсійнасьці... Прынамсі, стрыжань беларускай ідэі — адзіны Бог і агульная мова.

Інталігенцыя павінна браць удзел у духовым, царкоўным жыцьці народу, але заставацца пры гэтым надканфэсійнаю. Стварэньне беларускага экумэнічнага руху спросьціць гэтую задачу.

Адраджэньне — гэта рух за аднаўленьне традыцый, таму ў прынцыпе ён кансэрватыўны, ён баіцца ерасяў. Але беларускай ідэі патрэбны цяпер ня гэтак апосталы, як ератыкі, ерасіярхі. Дзеля адраджэнскай сьвядомасьці зручней прыўлашчыць чужое, чымся тварыць новае. Але лепш экумэнізм, чымся вымогі прышчапіць чужую мэсіянскую ідэю. Беларусам бракуе фанатызму, каб высілкамі нейкай адной часткі насельніцтва накінуць астатнім свой сьветапогляд, але ў беларусаў дастаткова летуценнасьці, каб упадабаць ідэю аб'яднаньня хрысьціянаў розных канфэсій.

## Пра Бога

*Ларыса Т. зь Менску*

У «Нашай Ніве» вы часта пішаце пра Бога. У мяне таксама быў Бог. Але мой Бог памёр ад AIDS. Ён быў прыгожы й моцны, поўны жыцьця. З самага першага разу, як толькі я пачула ягоныя песьні, я зразумела, што гэта мой Бог. Пасьля мы не расставаліся ні на дзень. Яго клікалі Freddie Mercury. Гэта быў шоўмэн, але я называла яго «Мой Моцарт». Як ён сьпяваў!.. Ягоны голас сягаў да неба, і ўжо здавалася, што ён гучыць адтуль.

Я любіла яго слухаць у сваім маленькім пакоі на вул. Карастаянавай, сам-насам, таемна ад іншых. Прызнацца, у глыбіні душы, куды й сама зазіраю рэдка, я называла яго «мой д'ябал». Але гэта раней, — да таго, як адбылося наша знаёмства.

За месяц да ягонае сьмерці у газэтах ужо пісалі пра гэта. І тады я напісала яму пра сваё шкадаваньне, а праз месяц пасьля таго, як ён памёр, прыйшоў адказ. Мяне трэсла ў ліхаманцы, калі я са слоўнікам разьбірала ягоныя крамзолі.

Ён пісаў, што хутка памрэ, але не прыймае маіх шкадаваньняў. Ён хоча вярнуць іх мне. «Калі мне суджана памерці заўтра, я ня буду шкадаваць. Я сапраўды зрабіў усё, што мог». Яму шкада ўсіх нас, хто шкадуе ці асуджае яго за распусту й раскошу. Маўляў, у нас ніколі не было нават магчымасьці па-сапраўднаму награшыць, а мы толькі й заклікаем сябе да цноты. «Як вы пражываеце вашыя жыцьці! Вы ня маеце магчымасьці грашыць — гэта значыць, ня маеце магчымасьці верыць. Бо бяз грэху ня можа быць Бога і ўратаваньня душы. Вы, калі й думаеце, што грашыце, — дык гэта дзесьці па-за рэлігіяй».

Далей ён піша, што чуў пра нашую «перастройку», але для яго й гэта ня сьведчыць ні пра што добрае, пра нашую дабрадзецель. Маўляў, мы адмовілі сваім сьвятым у сьвятасьці. Але сьвятое — непадзельнае. Нельга сказаць, што вось гэта для мяне ўжо не сьвятое, а гэтыя рэчы ўсё яшчэ сьвятыя. Так не бывае. І расчараваньне ў нечым сьвятым робіцца для цябе канцом веры ў Бога.

Ён пісаў, што памірае на вяршыні славы, багацьця й грэху — на самай вяршыні зямнога чалавечага жыцьця, а мы... Што толку лічыць сябе сьвятым, седзячы ў глыбокай сырой яме!

Я пішу вам, каб сказаць, што не пайду ў царкву. Гэта, як і ўсё, што яшчэ ўчора было магчымае толькі ў іх, а цяпер валам валіць да нас, — яно ўсё адно сапраўднае толькі ў іх. І таму я не пайду. У мяне быў Бог. Няхай ён і застанецца маім адзіным былым Богам.

# ФУНДАТАРЫ «НАШАЙ НІВЫ»,

**якія дапамаглі газэце ў 1993 годзе:**

*Я.Алёхін (Аўстралія)*
*Ю.Андрусышына (ЗША)*
*К.Анісава (Беларусь)*
*А.Арэшка (Бэльгія)*
*М.Банкоўскі-Цюліг (Швэйц.)*
*З.Бартосік (Беларусь)*
*М.Баяроўскі (Вялікабрытанія)*
*Б.Бельмач (Канада)*
*А.Бразоўскі (Аўстралія)*
*Я.Брыль (Беларусь)*
*Ю.Весялкоўскі (Вялікабр.)*
*К.Вініцкая (ЗША)*
*К.Ворф (ЗША)*
*П.Вэкслер (Ізраіль)*
*Р.Ганчарова (Беларусь)*
*Ф.Говард (ЗША)*
*А.Груша (Аўстралія)*
*М.Грэбень (ЗША)*
*П.Гуз (Аўстралія)*
*У.Дамашэвіч (Беларусь)*
*А.Даніловіч (ЗША)*
*Л.Дзейка (Беларусь)*
*А.Жлутка (Беларусь)*
*Р.Жук-Грышкевіч (Канада)*
*Я.Жучка (Бэльгія)*
*Н.Жызьнеўскі (ЗША)*
*А.Завадзкі (Беларусь)*
*Р.Завістовіч (ЗША)*
*В.Зайка (Беларусь)*
*М.Залога (Вялікабрытанія)*
*Я.Запруднік (ЗША)*
*А.Здановіч (Вялікабрытанія)*
*А.Кабяка (ЗША)*
*В.Кажан (ЗША)*
*С.Карніловіч (ЗША)*
*І.Каханоўская (ЗША)*
*В.Кіпель (ЗША)*
*В.Коўтун (беларусь)*
*К.Л. (Вялікабрытанія)*
*А.Лапышаў (Эстонія)*
*А.Лашук (Вялікабрытанія)*
*М.Лужынскі (Аўстралія)*
*П.Манькоўскі (ЗША)*
*С.Муроғ (Беларусь)*
*К.Мярляк (ЗША)*
*Я.Мятлеўскі (Вільня)*
*У.Набагез (ЗША)*
*а.А.Надсон (Вялікабрытанія)*
*Норык (ЗША)*
*А.Орса-Рамана (ЗША)*
*В.Пашкевіч (Канада)*
*Э.Пашкевіч (Канада)*
*А.Протас (ЗША)*
*М.Раецкі (Аўстралія)*
*В.Рамук (ЗША)*
*У.Русак (ЗША)*
*М.Рэдзімскі (Польшча)*
*Я.Сурвіла (Канада)*
*Я.Сажыч (ЗША)*
*М.Сенька (ЗША)*
*Л.Сільнова (Беларусь)*
*З.Смаршчок (Бэльгія)*
*Л.Стагановіч (ЗША)*
*В.Станкевіч (Нямеччына)*
*Ю.Станкевіч (Чэхія)*
*З.Сямашка (Вялікабрытанія)*
*І.Тарына (Беларусь)*
*У.Траскевіч (ЗША)*
*А.Трусаў (Беларусь)*
*В.Трыгубовіч (Беларусь)*
*А.Тэлеш (ЗША)*
*С.Федарынчык (Украіна)*
*В.Целеш (Латвія)*
*А.Чапкоўская (Беларусь)*
*Я.Юхнавец (ЗША)*
*А.Яраховіч (ЗША)*
*Фонд «Pogranicze» (Польшча)*

**ШЧЫРА ДЗЯКУЕМ УСІМ**





На складзе БПА зьявіўся адмысловы дадатак да часопіса «ААА» з нагоды 110-годзьдзя В.Ластоўскага — зборнік яго выбранае паэзіі «Зямлі Крыві».

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**Іосіфу П. з Мастоў.** Добра, але для выбару мала.

**Зьміцеру Д. з Воршы.** На ўвесь твор — толькі адна думка, і тая пазычаная ў М.Анчарава.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС «НН»:**
у Літве — 67233
на Беларусі — 63125

НАША НІВА. Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Рэдакцыйная Рада: Уладзімер Арлоў, Сяргей Астраўцоў, Ігар Бабкоў, Адам Глёбус, Алег Дзярновіч (прадстаўнік Рэдакцыі ў Менску), Сяргей Дубавец (рэдактар), Лявон Луцкевіч, Алег Мінкін, Генадзь Сагановіч, Сяргей Харэўскі (мастацкі рэдактар), Алесь Чобат, Сяргей Шупа. Заснавальнік і выдавец Павал Жук. Адрасы Рэдакцыі: 2041 Вільня а/с 2082 і 220182 Менск а/с 71. Афсэтны друк. Фармат А3. Агульны наклад 20 тыс. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку» (220041 Менск, праспэкт Ф.Скарыны, 79) Замова 1711